• выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

• цана 1000 рублёў

13 чэрвеня 1996 г. чацвер, № 148—149 (22951—22952)




# ЗВЯЗДА

## БЕЛАРУСЬ ВІНШУЕ РАСІЮ СА СВЯТАМ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір і міністр замежных спраў Уладзімір Сянько з нагоды гадавіны прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Расійскай Федэрацыі накіравалі віншавальныя тэлеграмы сваім расійскім калегам Барысу Ельцыну, Віктару Чарнамырдзіну і Яўгену Прымакову.**

Кіраўнік нашай дзяржавы, у прыватнасці, пажадаў расійскаму народу працвітання і дабрабыту. Аляксандр Лукашэнка выказаў надзею, што падпісаны 2 красавіка беларуска-расійскі Дагавор аб утварэнні Супольніцтва будзе і надалей выконвацца на карысць народаў двух краін.

Як паведаміў карэспандэнту Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Расіі Віктар Даніленка, напярэдадні віншавальныя тэлеграмы былі перададзены расійскаму боку.

БЕЛТА.

## СА СПРАВАЗДАЧАЙ — ДА ПРЭЗІДЭНТА

**З мэтай удакладнення становішча на месцах Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка прыняў рашэнне заслухаць даклады кіраўнікоў аблвыканкомаў і Мінгарвыканкома.**

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 12 чэрвеня адбылася сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з мэрам г. Мінска Уладзімірам Ярмошыным, на якой кіраўнік сталіцы дакажыў аб сітуацыі ў асноўных сферах жыцця горада, адказаў на пытанні кіраўніка дзяржавы.

Сярод іншых абмеркаваны праблемы будаўніцтва жылля і, у прыватнасці, узроўню жылля высокай ступені гатоўнасці, будынкаў, збудаваннаў рэспубліканскай і гарадской уласнасці; рамонту дарог і будынкаў у горадзе.

Вялікая ўвага была ўдзелена пытанням арганізацыі святкавання Дня вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкай акупацыі, Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, а таксама мерапрыемстваў, звязаных з прыведзеннем 22 чэрвеня — у гадавіну пачатку Вялікай Айчыннай вайны — Дня жалобы.

Прэзідэнт выказаў падзяку У. В. Ярмошыну за актыўную работу па своечасовай выплаце заработнай платы работнікам бюджэтнай сферы, а таксама пенсій у г. Мінску.

13 чэрвеня аб сітуацыі ў вобласці Прэзідэнту будзе дакладваць старшыня Брэсцкага аблвыканкома У. А. Заламай.

БЕЛТА.

— *НАДВОР'Е* —

## БЕЛАРУСЬ ЧАКАЕ ЗАМАРАЗКАЎ?

**Не, сапраўды, з надвор'ем робіцца нешта незразумелае: то дождж зарадзіць, то спякота ўстановіцца такая, што не прадыхнуць.**

А тут яшчэ адзін сюрпрыз, падобна, зноў чакае жыхароў нашай краіны. Размова, дарэчы, не аб чарговых хвалях гарачага паветра. Зусім наадварот. Сёлетнія лета, відаць, вырашыла аншчаслівіць усіх сваімі нечаканымі падарункамі і ў якасці аднаго з іх паднесці... замаразкі. У сярэдзіне чэрвеня.

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Белгідрамеце, замаразкі чакаюцца ў ноч на 15 чэрвеня, а таксама ў нядзелю і панядзелак, зразумела, таксама ноччу. Закрануць яны паўднёва-заходнюю частку краіны, Брэсцкую, Гродзенскую і частку Мінскай вобласці. Звязваюць сіноптыкі такую анамалію з арктычным паветрам, якое да гэтых чысл «даімчыцца» да Беларусі. Праўда, верагоднасць таго, што замаразкі сапраўды будуць, — 50 працэнтаў. Скажам так, 50:50. Такім чынам, гаспадары ўласных агародаў, рабіце адпаведныя высновы.

Ігар ГРЫШЫН.




*Заможны край, ў якім адвеку досыць*
*Салодкіх пернікаў і горкіх бізуноў,*
*Ў якім цвікоў на ўсіх прарокаў хопіць,*
*На ўсе улады хопіць халуёў.*
*Слухмяны край, ў якім скрозь сон не чуюць,*
*Як стогнуць дзеці і грымяць грамы,*

*Не бачаць, як прачнуўшыхся катуюць*
*І ўпотай ладзяць баль сярод чумы.*
*Мой любы край... Адвечнаю ралльёю*
*Сыду ў той свет, дзе не бываць журбе,*
*Каб ўкленчыць перад Праведным суддзёю*
*Няхай бы кроплю шчасця для цябе!*

*Старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь генерал-маёру МАЦКЕВІЧУ У. А.*
*Міністру ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь генерал-маёру АГАЛЬЦУ В. С.*
*Начальніку Службы бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь палкоўніку БАРОДЗІЧУ Ю. Ф.*

Сёння ў 9 гадзін раніцы ў якасці заложнікаў былі захоплены 15 выхаванцаў і 2 выхавальніцы дзіцячага сада № 511 г. Мінска. Тэрарыст меў пры сабе самаробнае выбуховае ўстройства.

У адпаведнасці з існуючымі планамі ў дзеянне былі неадкладна ўведзены спецыяльныя падраздзяленні КДБ і МУС, Службы бяспекі. Кіраўнікі аперацыі, камандзіры спецпадраздзяленняў і іх асабовы састаў дзейнічалі дакладна, зладжана і эфектыўна. У 11.50 тэрарыст быў знішчаны, выбуховае ўстройства абясшкоджана. Ніхто з заложнікаў не пацярпеў.

Аб'яўляю падзяку ўсім удзельнікам аперацыі. Тых, хто вызначыўся, прашу прадставіць да ўзнагарод.

Выказваю ўпэўненасць у тым, што асабовы састаў органаў дзяржбяспекі і ўнутраных спраў, Службы бяспекі і ў далейшым будзе дзейнічаць гэтак жа дакладна і рашуча, забяспечваючы мір і спакой на нашай зямлі і бяспеку нашых людзей.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.

*КАЛЕКТЫВУ ДЗІЦЯЧАГА САДА № 511 г. Мінска*

Дарагія супрацоўніцы дзіцячага сада!

Сёння вы перажылі жудасную па сваёй жорсткасці падзею — захоп малалетніх дзяцей у якасці заложнікаў.

У гэтай крытычнай сітуацыі вы праявілі вытрымку і мужнасць, падтрымліваючы і абараняючы вашых выхаванцаў. Выказваю вам за гэта сваю глыбокую ўдзячнасць.

Разам з вамі я перажываў гэтыя драматычныя хвіліны, рабіў усё магчымае, каб пазбегнуць трагедыі.

Высокі прафесіяналізм праявілі супрацоўнікі нашых праваахоўных органаў, афіцэры спецыяльных падраздзяленняў. Менш чым праз тры гадзіны злачынца, які захапіў заложнікаў, быў знішчаны, а выбуховае ўстройства, што было ў яго, абясшкоджана.

Я запэўніваю вас, а таксама ўсіх жыхароў рэспублікі ў тым, што і ў далейшым такія злачынныя спробы будуць спынепца самым рашучым чынам. У нас ёсць чым і каму абараніць нашых дзяцей, нашых грамадзян.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# СТРАХ

## Ніхто з дзяцей, узятых напярэдадні тэрарыстам у заложнікі, учора ў дзіцячы садок не прыйшоў

**Жыць стала яшчэ больш страшна. Захоп дзяцей заложнікамі ў цэнтры параўнальна спакойнай беларускай сталіцы, пра што ўчора паведамляла «Звязда», адлажыўся ў падсвядомасці кожнага з нас яшчэ адным сігналам трывогі, страху. Спадзяёмся, з учарашняга рэпартажа чытачы адчулі жудасную атмасферу, якая панавала ў мінскім садку № 511 і вакол яго. Сёння ўжо вядомы падрабязнасці, з'явіліся новыя факты.**

### ДЗЕЦЯМ СКАЗАЛІ, ШТО ІДУЦЬ ЗДЫМКІ КІНАФІЛЬМА

— Страх мы адчулі толькі сёння. У панядзелак жа не было калі палохацца. Дзейнічалі.

Такімі словамі пачала ўчора гутарку выконваючая абавязкі загадчыцы садка № 511 Людміла Скварцова.

Уваходныя дзверы былі зачынены. Падумалася: садок не працуе. Аказалася — ціхая гадзіна. І ўсё ж многія сёння сюды не прыйшлі. З групы заложнікаў — ніхто.

На Аляксандра Зюлькова пазаўчора раніцай у садку ніхто не звярнуў увагі. Ён прайшоў на другі паверх. Дзеці старшай групы, а таксама некалькі з малодшай ужо былі абедалі. Пасля ягонага крыку, што мае выбуховае ўстройства, сумніву ў рашучасці ўчынку не засталося. Спрацавала пачуццё, якое і падказала: гэты здольны на ўсё. У сталоўцы знаходзілася 17 дзяцей. Чатырох ён пасля выпусціў. Разам са сваімі выхаванцамі засталіся Ларыса Сакалова і лагапед Наталля Сакіна.

Эмоцыі ў такім становішчы — дрэнны дарадца. Работнікі садка астатніх дзяцей тэрмінова, без лішняй мітусні, вывелі з будынка.

Пасля Ларыса Сакалова раскажа, што напярэдадні ёй снілася маці. Так бывае, па яе словах, заўсёды перад няшчасцем. Сон спраўдзіўся. З тэрарыстам Ларыса Іванаўна сябе паводзіла надзвычай мудра. Супакойвала, казала, што ўсе ягоныя патрабаванні будуць выкананы. Калегі паведамілі — нават гладзіла. Зюлькоў дзяцей не чапаў. Даваў нават выпіць сок, пагуляць з цацкамі. Толькі з часам яны, напэўна, асэнсуюць сітуацыю, у якую трапілі. Тым болей, дзецям сказалі, што здымаецца кінафільм.

З работнікаў садка той ноччу ніхто добра не спаў. Праз сон крычалі. Стрэс. Страх. Што ўжо казаць пра няшчасных бацькоў...

Пакуль ішлі перамовы тэрарыста з прадстаўнікамі ўлады, дзеці паціху перайшлі ў прыбіральню. Следам выбралася Ларыса Сакалова. Па словах выконваючай абавязкі загадчыцы дзіцячага садка, Наталля Сакіна засталася ў будынку пад прыкрыццём і апекай спецназаўцаў.

Безумоўна, калі б жанчыны паводзілі сябе інача — не так разважліва — магла б адбыцца трагедыя. Гонар ім і слава.

### АПЕРАЦЫЯ

Адразу ж, як толькі факт захопу дзяцей тэрарыстам пацвердзіўся, быў створаны спецыяльны штаб на чале з намеснікам міністра ўнутраных спраў І. Юркіным. Туды таксама ўвайшлі першы намеснік КДБ Л. Ерын, начальнік Службы бяспекі Прэзідэнта Ю. Барадзіч, начальнік сталічнай міліцыі Б. Тарлецкі.

Ю. Барадзіч пасля расказаў, што па дазвол на ўдзел у аперацыі прыйшлося звяртацца да Аляксандра Лукашэнкі.

— Прэзідэнт даў «дабро», і мы выехалі на месца.

Удзел у ёй таксама прынялі спецпадраздзяленні КДБ («Альфа») і МУС («Алмаз»).

Першы намеснік Генеральнага пракурора краіны Уладзімір Кандрацьеў учора ў гутарцы са мной расказваў, як прыходзілася ўгаворваць тэрарыста, адцягваць ягоную ўвагу ад дзяцей. Калі па затрабаванню Зюлькова прывезлі ягоную справу аб накіраванні на лячэнне і той азнаёміўся з ёй, Кандрацьеў сказаў:

— Бачыце, па вашай просьбе справа два разы разглядалася. Давайце абмяркуем усё у пракуратуры.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## ТРАНСПАРТ ПАВІНЕН АКУПЛЯЦЦА НА 80 ПРАЦЭНТАЎ. ЧАКАЙЦЕ ПАВЫШЭННЯ ТАРЫФАЎ

**У адпаведнасці з рашэннем кіраўніцтва рэспублікі акупнасць гарадскога транспарту да канца бягучага года павінна складаць 80 працэнтаў.**

Паводле слоў намесніка Мінгарвыканкома Пятра Сямашкі, акупнасць сталічнага транспарту ў канцы 1994—пачатку 1995 года складала 18—20 працэнтаў, у красавіку бягучага года гэты працэнт павялічыўся да 48-і.

Адной з мераў павышэння акупнасці транспартнікі называюць павелічэнне платы за праезд. Па меркаванню Пятра Сямашкі, гэта адбудзецца дзесьці ў жніўні-верасні бягучага года — прыкладна ў 2,5 раза. Талончык, такім чынам, будзе каштаваць 4 тысячы рублёў.

## СТАЛІЧНЫ ТРАНСПАРТ: ДРЭННА І ЯШЧЭ ГОРШ

**Каля паловы рухомага саставу транспартнага парка сталіцы зношана больш чым на 50 працэнтаў.**

Як адзначыў намеснік старшыні Мінгарвыканкома Пётр Сямашка, за апошнія 3-4 гады абнаўленне было вельмі дрэнным. Летась горад атрымаў 41 аўтобус, 37 тралейбусаў і 4 трамваі, былі адрамантаваны 251 аўтобус і тралейбус, 10 трамваяў.

Рамонт, які выконваюць завод «Белрамкамунмаш» і Гомельскі рамонтны завод, абыходзіцца ў капеечку: аднаўленне тралейбуса патрабуе каля 300 мільёнаў рублёў.

Новая ж машына каштуе ад 900 мільёнаў да 1 мільярда рублёў.

У бягучым годзе бюджэтам выдзелена 25,5 мільярда рублёў на набыццё транспарту, аднак, паводле слоў Пятра Сямашкі, патрэбна сума ў 5-6 разоў большая. Павелічэнне рухомага саставу метро таксама ўяўляецца складаным: кошт аднаго вагона дасягае амаль 5 мільярдаў рублёў.

Мінгарвыканком праводзіць мерапрыемствы па ўдасканаленню транспартнай сістэмы сталіцы: скасоўваюцца ранейшыя і ўводзяцца новыя маршруты, аўтобусныя маршруты пераносяцца да кальцавой дарогі, а цэнтр плануецца абслугоўваць толькі электратранспартам.

## САМЫ ВЫГАДНЫ ГАРАДСКІ ТРАНСПАРТ — МЕТРО

**Акупнасць сталічнага метро ў красавіку бягучага года склала 100 працэнтаў.**

З уводзеннем новых станцый нагрузка на гэты від транспарту ўзрасла на 20 працэнтаў. Адпаведна ўзнікла неабходнасць павелічэння рухомага саставу (сёння жыхароў і гасцей сталіцы перавозяць 132 вагоны метро). Аднак высокі кошт (каля 5 мільярдаў рублёў) рыжскіх і пецярбургскіх вагонаў ускладняе вырашэнне гэтай праблемы.

Разам з тым вырашаць яе прыйдзецца даволі хутка. У снежні 1997 года плануецца ўвядзенне ў эксплуатацыю станцый «Партызанская», «Аўтазаводская», «Магілёўская».

*Жанна КАТЛЯРОВА.*

# ДАЧА ЯК ПРАДМЕТ ЭКАНАМІЧНАЙ НЕАБХОДНАСЦІ?

**ЛЕТАМ, асабліва ў выхадныя дні, Мінск пусцее настолькі, што становіцца горадам, цалкам прымальным для жыцця і нават для сякога-такога адпачынку. Справа не ў студэнтах, якія ад'язджаюць ці на сезонныя работы, ці на практыку, ці на вёску да дзядулі (туды ж, пры неабходнасці і па магчымасці, адпраўляюць і школьнікаў). І, зразумела, справа не ў тых нашых суграмадзянах, якія адлятаюць ці адплываюць на міжземнаморскія курорты і якія дасягнулі поспеху ў жыцці, — іх не так многа. Рашаючую ролю ў апусценні горада іграюць дачы. Не, нават так — Дача.**

Адпачыць на 4—6, радзей — 8 сотках можна. Там дастаткова месца для летняй хаткі, для прыняцця сонечных ваннаў і для настольных гульняў. З рухавых забаў можна рэкамендаваць скачкі з шастом, гэта значыць у вышыню, таму што, скачучы ў даўжыню, вы рызыкуеце апынуцца на кусце агрэсту ці, што значна горш, на чужой тэрыторыі.

Аднак што датычыцца дачы як падсобнай гаспадаркі, якая прыносіць прыбытак, адчувальны ў сённяшніх эканамічных умовах, то ў чалавека, які не мае гэтых запаветных 6 сотак, такая пастаноўка пытання выклікае недавер ці хаця б цікаўнасць.

Дык ці на самай справе дача ўяўляе сабой рэнтабельнае прадпрыемства або ніякі ўраджай не ў стане акупіць выдаткі, якія ідуць на забеспячэнне гэтых 6 сотак штогод? Па адказ мы звярнуліся да вопыту сям'і дачнікаў са шматгадовым стажам, людзей працалюбівых і разумных ва ўсіх адносінах. Узяты ў якасці прыкладу дачны ўчастак знаходзіцца на адлегласці 50 кіламетраў ад горада і ўяўляе сабой тэрыторыю ў 8 сотак (2 з якіх заняты не выкарчаванымі пакуль пнямі) са стандартным пералікам збудаванняў: стаянка для машыны з пад'язной дарожкай, кветнік, цяпліца і градкі — многа градак з вузенькімі сцежкамі між імі. І, вядома ж, дом: шырэйшы і ніжэйшы, чым большасць збудаванняў, у архітэктуры якіх галоўны той жа прынцып, што і ў архітэктуры небаскробаў: чым вышэй — тым лепш. Агароджаны гэтыя 8 сотак «сцяной» кустоў і дрэў, зразумела, пладова-ягаднага профілю.

У якую суму гаспадарам абышлася сяўба 1996 г. на дачным участку? Давайце разбірацца па пунктах: плёнка для цяпліцы — 150.000 рублёў (25 метраў па 6000 рублёў за метр), мінеральныя і арганічныя ўгнаенні для глебы — 250.000 (па словах дачнікаў, на гэтым артыкуле яны зэканомілі, урэзаўшы неабходную колькасць угнаенняў), насенне (кабачкі, перац, памідоры, агуркі, салата, радыска, морква, капуста) — 150.000 рублёў (насенне іншых культур збіраецца ўвосень з градак разам з ураджаем). Для вырошчвання сельскагаспадарчых культур больш нічога, уласна, і не трэба, акрамя зямлі, вільгаці, сонечнага цяпла. Праўда, некаторыя агароднікі і садаводы ўпэўнены, што раслінам патрэбна яшчэ і душэўнае цяпло.

І яшчэ адзін артыкул расходаў — транспарціроўка працоўнай сілы да месту сезонных работ і назад. Паездка ў адзін бок за 50 кіламетраў на машыне каштуе каля 15.000 рублёў, на электрычцы — 6000 за адзін білет, на аўтобусе — 8500 для аднаго чалавека. Калі працоўная сям'я — менавіта аб такой ідзе гаворка — кожную пятніцу едзе на дачу, а ў нядзелю — дадому, то за 25—30 тыдняў (з красавіка па кастрычнік) іх старэнькія «Жыгулі» з'ядуць на бензіне 750.000—900.000 рублёў. Прашу адзначыць, што на электрычцы дабірацца да дачы не толькі менш зручна і больш стомна, але і больш дорага, таму што паездка да дачы для сям'і з чатырох чалавек каштуе ўсе 24.000. Пераадольваць жа гэтую адлегласць на аўтобусе яшчэ больш складана.

Выснова першая: уласны аўтамабіль, няхай гэта нават разваліна яшчэ тая, неабходны для эканоміі здароўя, часу і грошай.

Іншыя штодзённыя выдаткі, звязаныя з жыццядзейнасцю дачніка, не ўлічваюцца — яны аднолькавыя ў горадзе і за яго мяжой. Падлічыўшы ўсе выдаткі, мы атрымліваем лічбу ў 1.300.000—1.450.000 рублёў.

Куды больш складана ацаніць мяркуемы ўраджай, нават калі параўняць яго з мінулагоднім, — цяжка, пагадзіцеся, гэта выразіць у грашовым эквіваленце. Можна адштурхоўвацца ад запэўніванняў дачнікаў аб тым, што, напрыклад, варэння з сабраных з участка ягад і пладоў хапае аж да сакавіка-красавіка, а кансерваванай агародніны, часнаку, фасолі, высушанага зяленіва — да новага ўраджаю. У неабмежаваным ужыванні вітамінаў і клятчаткі летам-восенню можна не сумнявацца. Толькі адна культура калі і вырошчваецца на гэтай дачы, то толькі для ўжывання ў ежу тут, на лецішчы, — дык гэта бульба.

У ацэнцы рэнтабельнасці дачы можна выбраць і іншы падыход: што можна набыць на 1.500.000 рублёў з агародніны і садавіны. Летам 1995 г. вядро, напрыклад, клубніц каштавала каля 200.000 (інфармацыя ад суразмоўцы з добрай памяццю). 10 вядзёр ягад на цэлы год — не так ужо і многа для сям'і з чатырох чалавек. З гэтага пункту гледжання дача таксама не выглядае безнадзейным прадпрыемствам.

Толькі некаторыя ўладальнікі дачных участкаў, людзі, схільныя да аналізу, прызнаюць, што за час, які чалавек прысвячае вырошчванню ўраджаю, можна зарабіць больш, падпрацоўваючы іншым спосабам, аднак такі варыянт мала прыгодны для непрадпрымальных, малаактыўных працаўнікоў, для пенсіянераў. Акрамя таго, ён пазбаўлены тых бясспрэчных пераваг, якія дае праца на дачным участку: свежае паветра для сябе і сваіх дзяцей, свабодны графік і магчымасць увесь час прыглядваць за нашчадкамі, а таксама пачуццё задавальнення, якое суправаджае ўжыванне ўласнага памідора.

Выснова другая: з пункту гледжання затрачанага часу дачу наўрад ці можна прызнаць бясспрэчна рэнтабельнай, але з пункту гледжання ўдалага спалучэння адпачынку і працы, якая прыносіць відавочны плён, здаровых эмоцый на фоне адносна чыстых паветра і харчу... Не пашкодзіла б, услед за задавальненнем цікаўнасці, утаймаваць свой скептыцызм, відаць, і аўтару.

Выснова трэцяя, апошняя: нягледзячы на тое пачуццё палёгкі, якое атрымліваеш вясной, калі бачыш суграмадзян, абвешаных рукзакамі і сумкамі с саджанцамі, якія штурмуюць гарадскі, а затым прыгарадны грамадскі транспарт (дрэннае забеспячэнне якім выклікае абурэнне), ад дачнага ўчастка я б не адмовілася.

***P. S. Пафас у канцы артыкула тлумачыцца не столькі ўласным светаўспрыманнем таго, хто пісаў, колькі вынікае са шматлікіх гутарак з дачнікамі. У рэнтабельнасці сваёй дачы ўпэўнены кожны добры гаспадар.***

**Вольга СТАЎРОЎСКАЯ.**




ПАСЛЯ СМЕРЦІ ЖОНКІ Тодар пачаў слабець. Ляжаў на ложку, а калі наступілі цёплыя дні, часта сядзеў каля хаты на лаўцы і драмаў. Ён жыў праз адну хату ад маёй дачы, якую я ў свой час набыў у вёсцы.

Дзяцей у яго не было.

Мы былі ў прыяцельскіх адносінах, хаця Тодар па ўзросту прыходзіўся мне бацькам. У канцы красавіка я пераехаў жыць у вёску і прыглядаць за старым воляй-няволяй прыйшлося мне. То прадукты трэба прынесці з магазіна, то звазіць у райцэнтр да доктара. А затым Тодару яшчэ больш лагоршала, і я прапанаваў легчы ў бальніцу. Але стары адмовіўся:

— Адляжуся ў зямельцы. Лепш, Пятровіч, мяне ў сельсавет завязі.

— Калі падаткі якія, то я магу і сам заплаціць?! — прапанаваў я.

— Мне па адной справе трэба, — Тодар падняў усохлую руку, тым самым спыніўшы мае роспыты.

Я пагаліў старога, памог апрануць чыстую кашулю і па яго просьбе зашпіліў на ўсе гузікі. Да сельсавета было каля двух кіламетраў і праз пяць мінут «Масквіч» прытармазіў каля двухпавярховага будынка са сцягам над уваходам.

Правёў Тодара ў кабінет сакратара, а сам пайшоў у мясцовы магазін. Калі ж мы вярнуліся назад, каля хаты старога, аблакаціўшыся на веснічкі, стаяў пляменнік Тодара, гэткі пяцідзесяцігадовы бычок. Твар бронзавы, галава ўрасла ў плечы.

— Во насланнё! — сказаў стары, адчыняючы дзверцы, — відаць, у роце перасохла.

— Я дзядзьку шукаю, а ён вунь раз'язджае, — пляменнік падышоў і павітаўся за руку. — А я падумаў, можа ў бальніцы часам...

— Так ужо твая душа баліць за дзядзьку, а хлеба і кавалачка не прывёз, — буркнуў стары.

— Што хлеб, я вунь выпіць прывёз, — пляменнік сунуў руку за пазуху і паказаў бутэльку «чарніла». Стары падаўся да хаты, пляменнік, штосьці тлумачачы, — за ім.

А вечарам Тодар абураўся:

— Глядзець на яго не магу. Балбоча, балбоча, што да чаго не магу ўцеміць... а то неяк сунуў мне чырвоную кніжачку і пытае:

— А ты ведаеш, хто я такі?

А хто ты? Басяк!

Гісторыю з чырвонай кніжачкай стары расказвае часта. Пляменнік уступіў у дружыну і, падвыпіўшы, прыехаў да дзядзькі. Пачаў хваліцца і паказаў Тодару пасведчанне дружынніка. Дзядзька ў дакументах разбіраўся слаба, але чырвоны колер кніжачкі ўспрыняў пасвойму.

Наступіў ліпень. Спякотны, з начнымі навальніцамі, было душна, а стары не мог сагрэцца, хаця дзве грэлкі пастаянна ляжалі ў нагах. Дні Тодара былі на зыходзе. Ён амаль не еў, але гаварыў многа. Успамінаў, як ваяваў у Прусіі, як высялялі з хутара, як... Але неяк неўпрыкмет стары пачынаў блытацца, гаворка губляла сэнс і ўжо цяжка было разабраць словы.

У нядзелю я не адыходзіў ад Тодара, а калі ён супакоіўся і заснуў, пайшоў да сябе. Калі ж вярнуўся, стары ляжаў з адкрытым ротам і цяжка дыхаў.

— Мікалаевіч! Што? — я нахіліўся над Тодарам. Ён вяла паказаў рукой на люстэрка, якое вісела над ложкам.

«Памірае, просіць, каб люстэрка завесіў», — мільганула думка. Схапіўшы нейкую хустку, накінуў яе на люстэрка і глянуў на старога. Ён махнуў рукой: маўляў, не тое робіш, паспрабаваў штосьці сказаць, але толькі глытнуў паветра і захроп...

Пад вечар прыйшоў сусед і мы памылі Тодара. Апранулі ў касцюм, паклалі на дзве лавы і запалілі свечкі.

Назаўтра з горада прывёз прадукты, труну зрабіў калгас, а гарэлка стаяла ў каморцы. Тодар яшчэ пры жыцці купіў дзве скрынкі. Жонка з суседкай пачалі гатаваць закускі, а я падаўся за вёску, да могілак.

Зямля лёгкая, пясок-мылец, і гадзіны праз тры з магілы ўжо была відаць толькі мая галава. Падраўноўваю сценкі, падчышчаю дно, а калі разагнуўся, аж здрыгануўся ад нечаканасці. На краі магілы стаіць пляменнік Тодара. Стаіць манументальна, шырока расставіўшы ногі, расхрыстаны і ўспатнелы.

— Ты ведаеш, хто я такі ёсць? — пляменнік п'яны, у куточках губ закіпае пена. Я пазіраю ўгору і машынальна прыпадымаю рыдлёўку бліжэй да твару. На ўсякі выпадак, бо з магілы хутка не выскачыш.

— Ты ведаеш, што я адзін?! Ты ведаеш, што я наследны прынц, я?!

Пляменнік тузануў сябе за кашулю, і белы гузік пстрыкнуў у яму, мне пад ногі.

— Хто табе даў каманду капаць? Я? — «бычок» распаліўся не на жарты.

— А дзе ты быў учора, калі дзядзька паміраў? Дзе ты быў?! — выкрыкнуў я і пазіраю на мыскі яго туфляў. Яны тупыя і запыленыя. Нага ў пляменніка малая, але з дужа высокім пад'ёмам, як у футбаліста. Адпору пляменнік не чакаў і пачаў апраўдвацца. Я вылез з ямы.

— То ж мой родны дзядзька, і ён прасіў, каб пахавалі каля майго бацькі, — зноў пайшоў у наступ пляменнік.

— А мне сказаў, каб каля жонкі, — змахляваў я. Са старым пра гэта размовы не было, бо і так усё было зразумела. З жонкай Зосяй стары пражыў паўвека. Пра што гаварыць?

— Канчай ж... малоць, — вылаяўся пляменнік. Ты без маёй каманды ні кроку. Я людзей ужо запрасіў, а ён выкапаў.

І што тут сказаць? Ён мае поўнае права пахаваць дзядзьку. Ды і сварыцца не выходзіць: нябожчык жа яшчэ ў хаце. Бліжэй да абеду пляменнік знайшоў у каморцы гарэлку, яшчэ добра глынуў іزаваліўся спаць. Дзядзька ляжыць у труне, а побач, у яго пасцелі, храпе-булькае пляменнік. Адна нага ў туфлі, другая ў шкарпэтцы з падранай пяткай.

На трэці дзень да нябожчыка пацягнуліся вясковыя выпівохі. Прыйшла Астанчыкава Гэля, тоўстая кабета, якая адна нагружала воз мяшкамі мукі і за адзін прысест выпівала дзве бутэлькі гарэлкі. Яна села каля печкі і зрэдку смаркалася ў кулак. Забегла ў хату і Ліпа Гірэйчык, усохлая маладзіца. Яна часта носіць трохлітровыя слоікі з малаком дачнікам, выменьвае на таннае віно. Ліпа толькі ўвайшла ў пакой, як адразу ж пачала галасіць.

— Што ты, Ліпа? Чаго ты?

— А я ўспомніла, як дзядзька мяне крапівой па лытках насцёбаў. Я ў ягады... а ён крапівой... ой, дзядзечка, ой, родненькі.

Трэба будзе на памінках за стол саджаць, як і тых мужчын, якія адчыняюць браму, раскідваюць яловыя галінкі, мітусяцца, стараюцца.

Пляменнік цвярозы і ціхі. Затое яго жонка адчувае сябе гаспадыняй. Штосьці шукае ў шафе, варочае ў куфры і грукае ў каморцы.

Ехаць па святара няма каму. Пляменнік просіць мяне. Едзем. Спадарожнік адчувае сябе вінаватым, штосьці пачынае гаварыць, апраўдвацца.

Праз паўгадзіны едзем назад. Бацюшка кірпаты і вясёлы. Матушка таксама жвавая кабета, гаварлівая.

— Бацюшка, мы не зусім у курсе, выбачайце, а колькі заплаціць трэба? Вось наследнік, гаспадар! — ківаю я на пляменніка.

— Калі са свечкамі, то тысяч дзвесце трыццаць, — адказала матушка. Пляменнік тузануўся на сядзенні.

Прыехалі. Матушка раздала людзям свечкі, і святар пачаў адпяваць. Тут падыходзіць мая жонка і шэпча на вуха. Выходжу з хаты. На ганку сутыкаюся з жонкай пляменніка.

— Бацюшку трэба заплаціць, а мы грошай не ўзялі. Можа ў вас знойдуцца? — пытае жанчына.

— Ды я ж чужы чалавек! Ніхто! Як усе яны! — паказаў я на людзей, якія стаяць на вуліцы. Мой адказ не спадабаўся жанчыне.

— Ну навошта так? Усё ж прыяцелямі былі.

А тут жа збоку топчацца пляменнік, хвалюецца. Я нічога не адказваю і вяртаюся ў сені. Прысутныя тушаць свечкі. Адпяванне скончылася. Выносяць крыж і труну. Ставяць на машыну, і працэсія рушыла да могілак. Пляменнік у апошнюю хвіліну, усё ж ухітрыўся выпіць і цяпер першы ішоў за машынай, выціраў хусцінкай вочы і штосьці гаварыў дзядзьку-нябожчыку. Лоб нябожчыка пакрывала вузкая паперка з магічнымі словамі, якую паклаў святар. А над усімі ляцеў тапаліны пух, ды пара горліц лапатала ў таполях.

Калі вярнуліся з могілак, сталы былі ўжо накрыты. Ліпа і Гэля асабістага запрашэння не чакалі, уладкаваліся ў куточку і пакуль астатнія тапталіся ў дзвярах, зрабілі па чарцы.

Грошы я неўпрыкмет перадаў матушцы. Святар сказаў малітву, і ўсе выпілі. Перад другой чаркай у хату ўвайшоў брыгадзір. Зняў шапку і прыгладзіў рэдкія валасы.

— Спазніўся правесці Тодара... самы сенакос, туды-сюды...

Брыгадзіра пасадзілі каля бацюшкі. Напоўнілі шкалік.

— То хай Тодару спіцца спакойна, — брыгадзір узяў двума закарузлымі пальцамі шкалік і смачна выпіў. Слова па дзядзьку вырашыў сказаць і пляменнік.

— Майго роднага дзядзьку вы добра ведаеце. Ведаеце і хто я такі. Гэта не сакрэт. Гэта можа тут камусьці і не спадабаецца, але гэтага маёнтка, — пляменнік паглядзеў на нізкую столь, — я адзіны законны наследнік, я наследны прынц... няхай камусьці і не падабаецца.

Я сяджу насупраць люстэрка і не п'ю, хаця і хочацца. Трэба адвезці дамоў бацюшку.

— Коля, чаго тут... дам табе каня... яшчэ не позна і бульбу пасадзіць, — кажа брыгадзір. Але пляменнік ужо не можа стрымацца, і цёмны твар яго пакрываецца светлымі плямамі.

У люстэрку я бачу спіны і твары людзей, а ў галаве круціцца адна думка: «Чаму стары паказаў на люстэрка?» А люстэрка старэнькае. Падрапанае шкло ў паточанай шашалем раме.

Пляменнік закончыў сваё слова і выцер рукой рот. Выпілі, і адразу стала весялей. Пачалі між сабой гаварыць і бадзёра закусваць.

Гляджу на покуць. Над галавой бацюшкі абраз, з-за якога выглядаюць дубчыкі вярбы, сухія, перавязаныя блакітнай стужкай. Вось тут мяне і азарыла думка. «А за люстэркам ляжыць штосьці важнае».

Пачалі наліваць трэцюю чарку, і тут аказалася, што гарэлкі не хапае, і ніхто не нясе. Вылез з-за стала.

— А што, гарэлкі ўжо няма? — пытаюся ў жонкі пляменніка.

— Няма! Хопіць, не вяселле...

— Няўжо дзве скрынкі выпілі? — здзіўляюся я і іду ў сені. Кабета следам. На дзвярах каморы замок.

— А гэта што такое? — паказваю на замок.

— Нічога, а каму не падабаецца, — жанчына зрабіла паўзу, — то і парог недалёка.

— Добра. Хай будзе так, — адказваю я і вяртаюся ў хату. Выбару няма. Калі цяпер не загляну за люстэрка, то другога выпадку не будзе. Перагнуўся над ложкам, сунуў руку за люстэрка і дастаў згорнуты папалам ліст паперы.

Глянуў я на паперку і аб'явіў:

— Як законны наследнік прашу паставіць на стол гарэлку!

Усе ўставіліся на мяне і нічога не могуць зразумець. Пляменнік прыпадняўся, а яго жонка застыла ў праёме дзвярэй. Перадаю завяшчанне святару. Бацюшка чытае, схіліўшы галаву ўглядаецца і брыгадзір.

— Ісцінна наследны прынц! — весела аб'яўляе бацюшка. Святар з гумарам.

— Табе, Коля, ужо каня не трэба, — кажа брыгадзір. — Табе дзядзька і цвіка не пакінуў. Пляменнік абмяк, як праколаты мячык. Спачатку абвіслі шчокі, затым плечы, і ён апусціўся на табурэтку. Яго жонка моўчкі паклала ў маю працягнутую руку ключ ад каморы.

Калі я ўвайшоў у пакой з бутэлькамі гарэлкі, прысутныя сустрэлі мяне прыхільна. І я сказаў слова пра дзядзьку Тодара. Атрымалася штосьці ўзнёслае і доўгае. Але нічога.

— Далібог праўда! — звонка выгукнула Ліпа.

— Што праўда — тое праўда, — пагадзіўся і брыгадзір! А калі паднімалі чарговую чарку, пачуўся шум электрычкі. Самазванец са сваёй палавінай адбыў у горад.

***

Я пішу п'есу. Мае драмы дзесьці блукаюць па тэатрах, але гэтая трагедыя дужа крутая. Не згубіцца. Прысядзібны ўчастак моцна зарос лебядой. Трэба скасіць, але ўсё рукі не даходзяць. Каса не кляпаная. Разгулялася пустазелле і на Тодаравых сотках.

Трэба штосьці пасадзіць. Але гэта ўжо наступнай вясной можна будзе пусціць зямлю пад бульбу. Хаця з ёю клопату шмат. Барануй, абганяй ды вядзі зацятую вайну з паласатым жуком, у якой ён усё роўна пераможа. Не, лепей пасаджу вінаград. Праз год-другі ўжо можна націснуць віна. Буду пісаць п'есы ды чакаць, пакуль віно адбродзіць ды адстаіцца. Зрэшты можна і не чакаць.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*ЗАЦВЕРДЖАНА пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 6 чэрвеня 1996 г. № 372*

# ПАЛАЖЭННЕ

## АБ ВЫПУСКУ, АБАРАЧЭННІ І ПАГАШЭННІ ЖЫЛЛЁВЫХ АБЛІГАЦЫЙ

### АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

1. Гэта палажэнне распрацавана ў адпаведнасці з Законамі Рэспублікі Беларусь «Аб каштоўных паперах і фондавых біржах», «Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб інвестыцыйнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь» у мэтах прававога забеспячэння выкарыстання розных пазабюджэтных крыніц фінансавання будаўніцтва жылля на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь пры дапамозе выпуску ў абарачэнне жыллёвых аблігацый.

2. Жыллёвая аблігацыя з'яўляецца каштоўнай паперай, якая сведчыць аб унясенні яе ўладальнікам грашовых сродкаў на будаўніцтва пэўнага памеру агульнай плошчы жылля. Жыллёвая аблігацыя мае намінальны кошт у грашовай адзінцы Рэспублікі Беларусь і эквівалент гэтага кошту, выражаны ў квадратных метрах агульнай плошчы жылля. Указаны ў жыллёвай аблігацыі эквівалент не падлягае змяненню.

Эквівалент намінальнага кошту адной жыллёвай аблігацыі не можа быць менш за 0,1 квадратнага метра агульнай плошчы жылля.

3. Жыллёвыя аблігацыі маюць права набываць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама юрыдычныя асобы, зарэгістраваныя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

4. Эмітэнтамі жыллёвых аблігацый маюць права выступаць юрыдычныя асобы, зарэгістраваныя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, якія маюць адведзены ва ўстаноўленым парадку зямельны ўчастак пад жыллёвае будаўніцтва, неабходную праектную дакументацыю і валодаюць правамі забудоўшчыка.

5. Эмітэнт да часу выпуску ў абарачэнне жыллёвых аблігацый абавязаны мець або адпаведную гарантыю банка, або дагавор страхавання жыллёвых аблігацый. Тэрмін дзеяння банкаўскай гарантыі або ўказанага дагавора страхавання не можа быць меншым, чым тэрмін дзеяння жыллёвых аблігацый.

6. Аб'ём эмісіі жыллёвых аблігацый у эквіваленце агульнай плошчы жылля не можа перавышаць агульную плошчу жылля, на будаўніцтва якога эмітэнту прадастаўлены правы забудоўшчыка.

7. Даход па жыллёвых аблігацыях не выплачваецца.

### ВЫПУСК ЖЫЛЛЁВЫХ АБЛІГАЦЫЙ

8. Выпуск жыллёвых аблігацый ажыццяўляецца эмітэнтам у адпаведнасці з патрабаваннямі Закона Рэспублікі Беларусь «Аб каштоўных паперах і фондавых біржах».

Рашэнне аб выпуску жыллёвых аблігацый павінна змяшчаць:

поўную назву і юрыдычны адрас эмітэнта;

памер статутнага фонду эмітэнта, умовы забяспечанасці пазыкі, мэты і прадмет яго дзейнасці, а таксама пералік кіруючых службовых асоб эмітэнта;

даныя аб размяшчэнні ўжо выпушчаных каштоўных папер;

мэта выпуску жыллёвых аблігацый;

указанне віду аблігацый;

агульную суму эмісіі і колькасць жыллёвых аблігацый, намінальны кошт жыллёвай аблігацыі і эквівалент гэтага кошту, выражаны ў квадратных метрах агульнай плошчы жылля;

парадак аплаты жыллёвых аблігацый;

тэрмін вяртання сродкаў пры адмове ад выпуску жыллёвых аблігацый;

іншыя пытанні, звязаныя з выпускам жыллёвых аблігацый.

9. Да выпуску дапускаюцца жыллёвыя аблігацыі, што прайшлі дзяржаўную рэгістрацыю ў Інспекцыі па каштоўных паперах Міністэрства фінансаў.

10. Для дзяржаўнай рэгістрацыі жыллёвых аблігацый эмітэнт прадстаўляе наступныя дакументы:

заяву аб рэгістрацыі жыллёвых аблігацый;

натарыяльна завераную копію рашэння аб выпуску жыллёвых аблігацый, аформленага ў адпаведнасці з пунктам 8 гэтага Палажэння;

натарыяльна завераную копію статута эмітэнта;

два экземпляры тэксту кароткай інфармацыі аб адкрытым продажы жыллёвых аблігацый;

два экземпляры праспекта эмісіі;

натарыяльна завераную копію банкаўскай гарантыі або дагавора страхавання жыллёвых аблігацый.

11. Дзяржаўная рэгістрацыя (або адмова ў рэгістрацыі) жыллёвай аблігацыі павінна быць праведзена не пазней як за 30 дзён з моманту падачы заявы аб рэгістрацыі з прыкладаннем неабходных дакументаў. Пры рэгістрацыі жыллёвай аблігацыі ёй прысвойваецца нумар дзяржаўнай рэгістрацыі.

Адмова ў рэгістрацыі можа адбыцца толькі па матывах парушэння ўстаноўленага парадку або неадпаведнасці прадстаўленых дакументаў патрабаванням заканадаўства.

Паведамленне аб дзяржаўнай рэгістрацыі жыллёвых аблігацый (або аб адмове ў рэгістрацыі) даводзіцца Інспекцыяй па каштоўных паперах Міністэрства фінансаў да ведама эмітэнта ў пісьмовым выглядзе.

Адмова ў рэгістрацыі можа быць абскарджана ў судовым парадку.

Інспекцыя па каштоўных паперах Міністэрства фінансаў мае права прыпыніць або забараніць выпуск жыллёвых аблігацый у выпадку, калі ён ажыццяўляецца з парушэннем дзеючага заканадаўства.

12. Абавязковымі рэквізітамі жыллёвай аблігацыі з'яўляюцца:

назва каштоўнай паперы — «Жыллёвая аблігацыя»;

поўная назва і юрыдычны адрас эмітэнта;

поўная назва або імя пакупніка;

намінальны кошт і эквівалент гэтага кошту, выражаны ў квадратных метрах агульнай плошчы жылля;

дата выпуску;

парадак і ўмовы пагашэння;

нумар дзяржаўнай рэгістрацыі, серыя і парадкавы нумар жыллёвай аблігацыі;

узоры подпісаў (факсіміле) упаўнаважаных асоб эмітэнта і правы, што вынікаюць з валодання жыллёвай аблігацыяй.

13. Эмітэнт у месячны тэрмін абавязаны апублікаваць у сродках масавай інфармацыі кароткую інфармацыю аб выпуску жыллёвых аблігацый у форме, даступнай для мяркуемага кола інвестараў.

### АБАРАЧЭННЕ І ПАГАШЭННЕ ЖЫЛЛЁВЫХ АБЛІГАЦЫЙ

14. Продаж жыллёвых аблігацый можа ажыццяўляцца самім эмітэнтам або прафесіянальным удзельнікам рынку каштоўных папер.

Абарачэнне жыллёвых аблігацый на рынку каштоўных папер праводзіцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

15. Пры набыцці жыллёвай аблігацыі прад'яўляюцца наступныя дакументы:

фізічнай асобай — пашпарт або іншы дакумент, які засведчвае асобу;

юрыдычнай асобай — даверанасць на атрыманне жыллёвай аблігацыі, копія плацежнага дакумента аб яе аплаце і дакумент, які засведчвае асобу прадстаўніка юрыдычнай асобы.

16. Аплата жыллёвых аблігацый праводзіцца шляхам безнаяўнага або наяўнага разліку ва ўстаноўленым парадку.

17. Уладальнік жыллёвай аблігацыі мае права пагасіць яе да заканчэння тэрміну дзеяння і атрымаць кошт, праіндэксаваны з улікам інфляцыі на момант здачы. Жыллёвыя аблігацыі прымаюцца эмітэнтам па месцы іх распаўсюджвання без абмежаванняў.

Пры здачы жыллёвай аблігацыі фізічная асоба прад'яўляе пашпарт або іншы дакумент, які засведчвае асобу, а юрыдычная асоба — пісьмовую заяву, падпісаную кіраўніком і галоўным бухгалтарам і завераную пячаткай.

18. Пагашэнне жыллёвых аблігацый афармляецца актам здачы-прыёмкі ўстаноўленай эмітэнтам формы. Вяртанне сродкаў па здадзеных жыллёвых аблігацыях ажыццяўляецца на працягу месяца з дня афармлення акта здачы-прыёмкі.

19. Жыллёвыя аблігацыі ўваходзяць у састаў маёмасці, што перадаецца ў спадчыну, у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

20. Эмітэнт абавязаны не радзей аднаго разу ў паўгоддзе даваць справаздачу перад уладальнікамі жыллёвых аблігацый аб сваёй дзейнасці і публікаваць гадавы баланс па форме і ў тэрміны, устаноўленыя Інспекцыяй па каштоўных паперах Міністэрства фінансаў, пасля пацвярджэння аўдытарам дакладнасці ўказаных у балансе звестак.

### АБМЕН ЖЫЛЛЁВЫХ АБЛІГАЦЫЙ НА ЖЫЛЛЁ

21. Фізічная або юрыдычная асоба, якая валодае жыллёвымі аблігацыямі, эквівалент намінальнай вартасці якіх складае не менш чым 40 працэнтаў агульнай плошчы кватэры (жылога дома), мае права на заключэнне з эмітэнтам дагавора аб долевым будаўніцтве жылля, у якім агаворваюцца тэрміны і ўмовы перадачы эмітэнтам ва ўласнасць уладальніка жыллёвых аблігацый канкрэтнага жылога памяшкання. Аб сваім намеры заключыць такі дагавор уладальнік аблігацый паведамляе эмітэнту шляхам падачы заявы ў пісьмовай форме.

Эмітэнт на працягу месяца пасля атрымання заявы ад уладальніка жыллёвых аблігацый абавязаны заключыць з ім дагавор аб долевым будаўніцтве жылля.

22. Пры заключэнні дагавора аб долевым будаўніцтве жылля ўладальнік перадае эмітэнту жыллёвыя аблігацыі, якія ён мае.

23. Пры згодзе эмітэнта ўладальнік жыллёвых аблігацый можа ў кошт аплаты жылля поўнасцю або часткова пакрыць розніцу паміж коштам кватэры (жылога дома) і перададзенымі эмітэнту жыллёвымі аблігацыямі пры належнай яму нерухомасцю або іншай маёмасцю.

24. Пасля падпісання акта ўводу ў эксплуатацыю жылога дома і поўнай аплаты жылля ўладальнікам жыллёвых аблігацый эмітэнт у месячны тэрмін перадае яму неабходныя дакументы для афармлення ва ўстаноўленым парадку правы ўласнасці на жылое памяшканне.

# У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь у мэтах выканання Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 22 снежня 1995 года № 516 «Аб некаторых мерах па развіццю жыллёвага будаўніцтва» прынятай пастановай зацвердзіў Часовае палажэнне аб парадку індэксацыі паявых узносаў, якія вяртаюць грамадзянам у выпадку іх выхаду з жыллёва-будаўнічых кааператываў.

Рэкамендавана пашырыць парадак індэксацыі паявых узносаў, якія вяртаюць грамадзянам у выпадку іх выхаду з жыллёва-будаўнічых кааператываў, на індэксацыю плацяжоў, што вяртае заказчык (забудоўшчык) удзельнікам жыллёвага будаўніцтва (фізічным і юрыдычным асобам) на долевых асновах.

Міністэрству архітэктуры і будаўніцтва даручана зацвердзіць ва ўстаноўленым парадку формы дакументаў і метадычныя ўказанні па індэксацыі названых узносаў і плацяжоў.

***

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў прапанову Міністэрства ўнутраных спраў, узгодненую з Міністэрствам замежных спраў, Міністэрствам юстыцыі, Міністэрствам фінансаў, аб заключэнні пагаднення паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Дзяржавы Ізраіль аб супрацоўніцтве ў галіне барацьбы са злачыннасцю. На правядзенне перагавораў і падпісанне ўказанага пагаднення ўпаўнаважаны міністр унутраных спраў Валянцін Агалец.

***

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь пагадзіўся з прапановай Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства адукацыі і навукі аб абавязковым размеркаванні выпускнікоў дзяржаўных медыцынскіх і педагагічных вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, за выключэннем тых, хто праходзіць навучанне за плату. Гэты парадак, вызначаны пастановай урада № 370, уводзіцца на перыяд да 2000 года.

Міністэрству аховы здароўя, Міністэрству адукацыі і навукі даручана распрацаваць і зацвердзіць Палажэнне аб размеркаванні выпускнікоў, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому прапанавана распрацаваць меры заахвочвання тых маладых спецыялістаў, якім трэба будзе працаваць у раёнах, забруджаных радыенуклідамі.

***

Кабінет Міністраў пастанавіў распаўсюдзіць з 1 чэрвеня 1996 года дзеянне пункта 3 Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 7 снежня 1993 года № 826 і абзаца першага пункта 6 Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 чэрвеня 1994 г. № 481 адпаведна на дактароў і кандыдатаў навук, якія працуюць у арганізацыях Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, фінансуемых за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

# СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ СІМВОЛІКА АТРЫМАЛА НАВУКОВАЕ І ГЕРАЛЬДЫЧНАЕ АБГРУНТАВАННЕ

**Завершаны конкурс на лепшы тлумачальны тэкст да Дзяржаўнага герба і Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь. Конкурс праходзіў з 25 снежня 1995-га па 1 мая 1996 года ў адпаведнасці з прэзідэнцкім Указам «Аб некаторых мерах па забеспячэнню статусу дзяржаўнай сімволікі».**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Галоўным упраўленні грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта, на конкурс паступіла 27 аўтарскіх тэкстаў. Ідэі конкурсу выклікалі шырокі грамадскі рэзананс і прывабілі ў лік яго ўдзельнікаў вядомых вучоных, дзеячаў культуры і мастацтва, студэнцкую моладзь, ветэранаў вайны і працы. Упершыню за апошнія 70 гадоў (герб і сцяг, якія сталі асновай для цяперашніх сімвалаў, былі прыняты адпаведна ў 1926 і 1951 гадах) створана поўная сістэма навуковай комплекснай аргументацыі і геральдычнае абгрунтаванне сучаснай беларускай дзяржаўнай сімволікі.

Па выніках конкурсу журы прыняло наступнае рашэнне: першыя прэміі прысуджаны рабоце вядомага скульптара Уладзіміра Папсуева, які вырабіў відарыс герба Рэспублікі Беларусь, што ўпрыгожвае фасад рэзідэнцыі Прэзідэнта, а таксама рабоце пісьменніка Аляксандра Савіцкага. У гады вайны ён камандаваў партызанскай групоўкай падрыўнікоў.

Паколькі на конкурс паступіла значная колькасць якасных з навуковага і мастацкага пункту гледжання работ, журы вырашыла замест прадугледжаных палажэннем аб конкурсе дзвюх другіх прэмій прысудзіць тры. Іх удастоены вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар, намеснік старшыні гістарычнай камісіі Прэзідыума АН Беларусі, член-карэспандэнт Міжнароднай славянскай акадэміі навук, адукацыі, мастацтваў і культуры Леанід Побаль, старшы выкладчык кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу БДУ Валерый Касмылёў, паэт Браніслаў Спрынчан.

Памятнымі прызамі Прэзідэнта Беларусі журы рэкамендавала адзначыць работы старшага выкладчыка кафедры археалогіі, этнаграфіі і дапаможных гістарычных дысцыплін гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Аляксандра Стуканава, навуковага публіцыста Эдуарда Самусенкі, студэнткі першага курса гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка Кацярыны Хромчанка, старэйшага беларускага паэта, члена Саюза беларускіх пісьменнікаў Пятра Прыходзькі і дацэнта Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі кандыдата гістарычных навук Дзмітрыя Хромчанкі.

Па выніках конкурсу прапануецца выдаць зборнік лепшых работ, а таксама стварыць рабочую групу, якая падрыхтуе для ўключэння ў школьныя і вузаўскія падручнікі абагульнены артыкул аб сучаснай беларускай дзяржаўнай сімволіцы. Прадугледжваецца, што Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка ў бліжэйшы час сустрэнецца з пераможцамі конкурсу.

**БЕЛТА.**

*Франц ВІТКО:*

# «АСНОВА САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЫ ЛЮДЗЕЙ — СТАБІЛЬНАЯ ЭКАНОМІКА»

**Нягледзячы на вядомую тэлеграму Прэзідэнта ў адрас Кабінета Міністраў, міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання з патрабаваннем разлічыцца з запазычанасцю па заработнай плаце да 20 мая, сітуацыя застаецца вельмі складанай. Пракаменціраваць яе наш карэспандэнт папрасіў намесніка старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Франца Вітко.**

— Варта нагадаць, што ўпершыню падобнае ўказанне з'явілася на пачатку сакавіка. Тады сапраўды былі выдаткаваны патрэбныя крэдытныя рэсурсы, і прадпрыемствы ў асноўным здолелі разлічыцца са сваімі работнікамі: запазычанасць знізілася з 900 да 32,5 мільярда рублёў. Зараз сітуацыя ўскладняецца зноў. Па стану на канец мая, даўгі па зарплаце склалі 893 мільярды. Найбольш цяжкае становішча ў аграпрамысловым комплексе, на які прыпадае ледзь не палова ўсіх неплацяжоў (гэта з улікам таго, што там зарплата нават ніжэйшая за так званую «рысу беднасці). Далей. Прамысловыя прадпрыемствы завінаваціліся работнікам каля 305 мільярдаў. Няпростая сітуацыя ў бюджэтнай сферы, асабліва напярэдадні перыяду масавых водпускаў.

Таму становіцца відавочным: тыя адміністрацыйныя меры, што прымаюцца зараз уладнымі структурамі, праблемы не вырашаць. Эканоміка развіваецца па сваіх законах і змяніць іх немагчыма.

**— У такім разе, лагічнае пытанне — што рабіць? І дзе, на думку прафсаюзаў, выйсце?**

— Ведаеце, прафсаюзы ніколі не ставілі пытанне спрошчана: давай, маўляў, зарплату — і кропка. Мы разумеем, што аснова сацыяльнай абароны людзей — гэта стабільная эканоміка. Бо даваць можна толькі тое, што выраблена, што ёсць. Таму перш-наперш нам трэба аздараўляць эканоміку.

**— Але якім чынам?**

— Гэту праблему мы разглядалі неаднаразова, у тым ліку апошні раз на пачатку мая на пасяджэнні Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях. У выніку мы выпрацавалі цэлы комплекс мераў, якія зараз накіраваны на разгляд ва ўладныя структуры. Калі коратка, гаворка ідзе аб наступным.

Па-першае, на нашу думку, трэба правесці інвентарызацыю ўсёй выпускаемай прадукцыі, каб ведаць дакладна: ці мае яна стабільныя рынкі збыту. У рэшце рэшт, досыць працаваць на склад. З улікам гэтага, для канкурэнтаздольных прадпрыемстваў павінны быць створаны найбольш спрыяльныя ўмовы гаспадарання, а астатнія, жадаем мы таго ці не, трэба будзе рэструктурызаваць.

Далей. Не сакрэт, што зараз за горла нашу эканоміку трымае менавіта фінансавы крызіс. Красамоўна: на сёння крэдыторная запазычанасць прадпрыемстваў перавышае даходную частку рэспубліканскага бюджэту ў два разы. Прычым праблема стала ўжо амаль чыста ўнутрыбеларускай. Таму патрэбен комплекс мерапрыемстваў, якія рэанімуюць фінансавую сферу. Сярод іх, на нашу думку, павінны быць і адтэрміноўка ўплаты запазычанасцей за энерганосьбіты па падатках і падатковых плацяжах, і адпаведныя гарантыі з боку дзяржавы для інвестараў, і жорсткі кантроль за рэжымам эканоміі матэрыяльных і энергетычных рэсурсаў — праблема, дарэчы, аб якой зараз па незразумелых прычынах чуецца ўсё менш і менш. Каб не рабіць экспарт цалкам стратным, магчыма, трэба нават правесці разавую дэвальвацыю нацыянальнай валюты і потым забяспечваць яе больш-менш устойлівы курс пры дапамозе дзяржаўных рэзерваў.

Асобная размова аб падатках, якія павінны забірацца строга ў рамках прыбытку. Таму мае сэнс не толькі знізіць падатковы прэс, але і скасаваць усе падаткі і абавязкова плацяжы ў бюджэт, якія ўключаюцца ў сабекошт прадукцыі.

Нарэшце, яшчэ адна балючая тэма — прадпрымальніцтва. Па ўсім свеце гэта тая «губка», якая збірае працоўныя рэсурсы, што вызваліліся ў дзяржаўным сектары. У адносінах да нас казаць падобнае не выпадае. Таму трэба як мага хутчэй прымаць законы аб спрыянні стварэнню новых прадпрыемстваў. Трэба пераходзіць ад дазвольнага да заявачнага прынцыпу рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання, паменшыць спіс ліцэнзійных відаў дзейнасці, і зноў-такі ўпарадкаваць падатковую сістэму.

**— Пакет прапаноў, сапраўды, даволі аб'ёмны. Аднак як на яго адрэагавалі ўладныя структуры?**

— Свае прапановы мы перадалі нядаўна, таму гаварыць аб нейкай рэакцыі пакуль рана. Але ў гэтым сэнсе вялікіх хваляванняў быць не павінна: да думкі прафсаюзаў прыслухоўваліся заўсёды.

**— Тым не менш, зараз падстаў для аптымізму няшмат. Вы ўжо казалі, што агульная запазычанасць па зарплаце набліжаецца да 900 млрд. рублёў. У той жа час, паводле апошніх назіранняў, вядома: калі даўгі нашых прадпрыемстваў падбіраюцца да лічбы ў 1 трыльён, рэзка абвастраецца сацыяльная напружанасць. На ваш погляд, наколькі рэальны ў бліжэйшы час выбух?**

— Хаця лакальных канфліктаў, відаць, усё ж такі не пазбегнуць, у бліжэйшыя месяцы сітуацыя ў цэлым будзе знаходзіцца пад кантролем. Прынамсі, падчас традыцыйнага летняга зацішша.

Разам з тым я не выключаю, што ўжо ўвосень сацыяльная тэмпература можа рэзка ўзрасці. Я не хачу рабіць нейкія прагнозы, але ўсё будзе залежаць ад агульнага стану нашай эканомікі, ад таго, ці будуць за гэты час прыняты канкрэтныя меры па яе аздараўленню.

**Сяргей ГРЫБ.**

*КАМУНАЛЬНЫЯ ПАРАДОКСЫ*

## СТРАТА ПАЧУЦЦЯ РЭАЛЬНАСЦІ

Завітаў неяк у бухгалтэрыю сваёй ЖЭС, каб удакладніць суму аплаты за кватэру і камунальныя паслугі за месяц. У цёмным цесным калідоры знаходзілася некалькі наведвальнікаў і работнікаў гэтай камунальнай установы, сярод якіх была і бухгалтарка. Яны спрабавалі растлумачыць увешанаму ордэнамі і медалямі ветэрану адну бясспрэчную ісціну. Але іх пераканаўчыя довады разбіваліся, як хваля аб камень, не даходзілі да яго свядомасці.

— Чаму за ўборку лесвіцы і вывазку смецця бераце з мяне 37 тысяч рублёў у месяц?! За карыстанне ж кватэрай мне належыць пяцідзесяціпрацэнтная скідка! — гучаў яго голас, які быў чуваць нават у двары.

Не мог зразумець, бядак, што прыватызаваная трохпакаёвая кватэра цяпер належыць яму, а не дзяржаве і ўсе расходы па яе ўтрыманню ён павінен аплачваць сам.

Калі ён жыў у дзяржаўнай кватэры, тлумачылі яму, тады прадастаўлялася пяцідзесяціпрацэнтная скідка па аплаце плошчы, а за ўборку лесвіцы і вываз смецця плата з яго не бралася, як, дарэчы, не бярэцца яна да гэтага часу з жыльцоў непрыватызаваных кватэр. Цяпер жа, калі жыллё знаходзіцца ў яго асабістай уласнасці, ільгота па аплаце жылплошчы аўтаматычна адпала, а па ўборцы лесвіцы і вывазу смецця яна не прадастаўлялася і раней. Гэтыя работы выконваюцца ЖЭСамі толькі ў дамах, якія ім належаць, а ўладальнікі прыватызаваных кватэр іх аплачваюць за свой кошт у памеры, роўным квартплаце.

Па ўсім было відаць, што незадаволены ветэран будзе непакоіць па гэтаму пытанню вышэйшыя інстанцыі. А я падумаў: а што заспяваеш, галубок, калі з часам прыйдзецца плаціць яшчэ і падаткі за нерухомасць і зямлю, на якой знаходзіцца твая кватэра?

Прыпомнілася рэпліка аднаго былога савецкага каментатара, які, адказваючы на празмерныя прэтэнзіі тэлегледачоў, якія жадалі атрымліваць такую ж зарплату, як у Амерыцы, а цэны на ўсё каб заставаліся нашымі, капеечнымі, сказаў: «Вы хочаце мець усё лепшае, што ёсць у сацыялістычным і ўсё лепшае, што ёсць у капіталістычным свеце. Але так быць не можа. Выбірайце штосьці адно».

Вось так і наш ветэран: хоча жыць ва ўласнай кватэры і карыстацца льготамі ўладальнікаў камунальнага жылля. Ружовая мара, інакш не скажаш.

**Міхаіл ЖУКАЎ.**

*г. Баранавічы.*

*КРЫЎДНА*

## І ПАСТАВІЛІ Ў КВАТЭРЫ ЗАМЕСТ ТЭЛЕФОНА... ТАКСАФОН

У 1988 годзе я моцна захварэла, была паралізаваная, прыкаваная да ложка, з-за чаго і стала інвалідам II групы. Звярнулася ў гарадскую тэлефонную сетку, каб паставілі мне тэлефон. І з-за адсутнасці нумароў, як пры гэтым растлумачылі, паставілі мне ў кватэры таксафон.

У снежні мінулага года праводзілася тэлефанізацыя нашага дома, але мне да гэтага часу ніхто нумара не даў. Няхай бы за грошы прапанавалі, дык пра мяне нават і не ўспомнілі. Я пазваніла ў абанентны аддзел, і мне сказалі: чакайце паштоўку. Толькі ні паштоўкі, нічога. А цэны на паслугі сувязістаў падскочылі на такую вышыню, што мне такія грошы і не сніліся. Я нават не ведаю, колькі зараз каштуе ўстаноўка тэлефона.

Як вядома, інвалідаў павінны абслугоўваць у першую чаргу, а атрымліваецца, што зусім забываюць.

**Ганна КОЦУР.**

*г. Брэст.*

*РЭКЛАМАЦЫЯ*

## ТРЭБА ВЫПУСКАЦЬ НЕ НА СКЛАД, А ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ

Вырашыла напісаць вось з якой нагоды. Летась я купіла тры падвясныя паліцы вытворчасці Дзяржынскай мэблевай фабрыкі.

Калі ж іх прыладкавалі на сцяну, дык убачылі, што яны з сур'ёзным бракам: некаторыя месцы ўвогуле былі не пафарбаваны, дзверцы і магніты абы-як прыкручаны, няправільна і няроўна, фурнітура адклеілася. А заплаціла я за гэтыя паліцы дорага, як кажуць, па сусветных цэнах. Аднак прыйшлося прасіць сваякоў, каб перавесілі крывыя дзверцы, выправілі іншыя недахопы-недаробкі. Мне хутка трэба будзе купляць набор мэблі для кухні, то я лепш вазьму імпартную кухню. Скажам, польскія кухонныя гарнітуры — таннейшыя і зробленыя без браку. Ёсць над чым падумаць нашым вытворцам.

Вясной захацелася прыдбаць лёгкія туфлі, каб яны былі зручнымі для маіх хворых ног. Пайшла ў фірменны магазін фабрыкі «Прамень», у краму, што па вуліцы Кірава, якая гандлюе абуткам усіх фабрык рэспублікі. І, разумееце, нідзе нічога для сябе не знайшла: увесь абутак дарагі, зроблены з цвёрдай скуры, непрыгожы, падэшвы цяжкія, як цагліны, нават тапкі, якія ў застойныя часы былі па 2 руб. 50 кап., зараз каштуюць 143.000. Скажыце, каму яны патрэбны? Ні моладзь, ні старыя іх не бяруць. Тады я завітала на стадыён «Дынама» і купіла там італьянскія басаножкі з натуральнай белай скуры і лёгкай падэшвай за 195.000 рублёў. Паўнату ў іх можна рэгуляваць з дапамогай засцежак. У такім абутку не сорамна выйсці і ў людзі. Вялікі дзякуй прадпрымальнікам, якія прывезлі гэты лёгкі абутак з-за мяжы.

Вось і хацелася б, каб нашы фабрыкі навучыліся выпускаць прадукцыю не на склад, а для людзей. І каб кожны выраблены тавар быў танным, зручным, радаваў вока і душу пакупніка. Гэта, дарэчы, датычыць амаль усіх тавараў, якія ў нас выпрабляюцца.

**Алена КАНДРАШЭВІЧ.**

*г. Мінск.*

*ПЫТАННЕ РУБАМ*

## «АДСЯЛІЛІ» ЗА 50-КІЛАМЕТРОВУЮ ЗОНУ. ЧАМУ?

Аказваецца, не абавязкова быць геніем, выдатнай, таленавітай асобай, каб прыдумаць, стварыць што-небудзь незвычайнае, адметнае. Гэта даказалі работнікі былога Міністэрства аўтамабільнага транспарту. Не доўга думаючы, яны ўвялі такі парадак пасажырскіх перавозак. Калі ад аўтавакзала да твайго населенага пункта 50 і больш кіламетраў, то гэта ўжо лічыцца міжгароднім маршрутам. Цікава, адкуль узялася такая «круглая» мяжа? А чаму не 40, 45 ці 55 кіламетраў?

Напрыклад, тая ж вёска Бубны, цэнтр калгаса «Чырвоны Кастрычнік», знаходзіцца ў межах Вілейскага раёна, але паколькі да яе амаль 60 кіламетраў, то аўтобусу прысвоілі статус міжгародняга. Значыць, замест 220 рублёў за кіламетр плаці зараз, вясковец, па 280 рублёў. Паколькі рэйс лічыцца міжгароднім, то разам з павышэннем платы за праезд адмянілі льготныя білеты для пасажыраў-пенсіянераў і тым самым паставілі іх у няроўныя ўмовы. Да кожнага прыпынку на гэтым маршруце пенсіянер едзе за поўны кошт, без 50-працэнтнай скідкі. А з большасці вёсак Вілейшчыны пенсіянеры катаюцца на прыгарадных аўтобусах па льготных білетах.

Дык чаму атрымалася (узаконена!) такая дыскрымінацыя, прычым не толькі для пажылых людзей, якія жывуць далёка ад райцэнтра? Прычым і так заўсёды былі пакрыўджанымі жыхары аддаленых вёсак, якім і даўжэй, і даражэй абыходзілася паездка ў райцэнтр. А калі цяпер яны апынуліся за 50-кіламетровай «зонай», дык і ўвогуле сталі людзьмі «другога гатунку».

Я разумею сітуацыю, у якой працуюць зараз аўтобуснікі. У іх не акупляюцца расходы па перавозцы пасажыраў. А пры пустой гарадской, раённай казне наўрад ці можна разлічваць на штомесячныя буйныя датацыі з бюджэту. Але ж не з кішэні маламаёмных пенсіянераў, увогуле небагатых зараз вяскоўцаў латаць дзіркі ў бюджэце.

Таму, каб не крыўдзіць, а абараніць пенсіянераў і ўвогуле ўсіх, хто карыстаецца зараз так званымі міжгароднімі аўтобусамі, прапаную: адмяніць іх у межах аднаго раёна, колькі б ні было тут населеных пунктаў. Вядома, гэта не павінна закрануць транзітныя аўтобусы, якія праходзяць праз раён. Там няхай застаюцца высокія цэны за праезд, тым больш, што звычайна курсіруюць камфартабельныя «Ікарусы».

**Казімір ЛУБНЕЎСКІ,**
**ганаровы член Саюза журналістаў Рэспублікі Беларусь.**

*г. Вілейка.*

**Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.**

*ПІСЬМО ПРАВЕРАНА...*

## «ПРОСІМ ПРАБАЧЭННЯ...»

***«Трэба працаваць, а мы цэлымі днямі сядзім пад дзвярыма крамы, чакаем, каб купіць хлеба», — так напісалі жыхары в. Гіравічы Валожынскага раёна ў сваёй скарзе, змешчанай у «Звяздзе» 23 мая.***

— Кіраўніцтва Валожынскага райпо паведамляе, — сказана ў рэагаванні яго старшыні П. Палешука, — што магазін вёскі Гіравічы быў зачынены па прычыне звальнення загадчыцы магазіна ў сувязі з яе хваробай. Абслугоўванне мясцовых жыхароў таварамі першай неабходнасці праводзілася аўтакрамай.

Кіраўніцтва райпо просіць у жыхароў вёскі Гіравічы прабачэння за магчымыя нязручнасці, звязаныя з кароткачасовым закрыццём магазіна. Адначасова паведамляем, што гандлёвая кропка аднавіла сваю работу 28 мая.

**АД АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ**

*Гэта рэагаванне спачатку было атрымана па факсу, а затым для пацвярджэння першы экземпляр прынесла і пошта. А літаральна праз дзень-другі ў рэдакцыю завітала дырэктар Ракаўскага рознічна-гандлёвага прадпрыемства (РГП) Марыя Іванаўна Гвінт з пісьмом. Цікава, што пад ім стаялі подпісы той жа аўтаркі апублікаванага ліста В. Адамовіч і яшчэ некаторых жыхароў в. Гіравічы. У ім таксама паведамляецца, што крама ў іх вёсцы аднавіла работу, а не працавала яна пасля рэвізіі з прычыны хваробы яе загадчыцы. А далей прыводзіцца даволі дзіўнае прызнанне: «Хлеб і іншыя тавары першай неабходнасці нам завозіла аўталаўка з 13 мая па панядзелках. Просім прабачэння, што турбавалі рэдакцыю». Вось і напрошваецца выснова: магчыма, першае пісьмо тая ж В. Адамовіч склала, як кажуць, не заглянуўшы ў святцы, ці другое — па просьбе дырэктара РГП для яе апраўдання. Але зазначым: такія «жарты» проста не да твару.*

*АДКАЗ НА ПЫТАННІ ЧЫТАЧА*

## У МІНСКУ НЕ ЎСЁ ТАК ДОБРА, АЛЕ НЕ ЎСЁ ТАК І ДРЭННА

***У рэдакцыю амаль штодзённа прыходзяць пісьмы, у якіх прыводзяцца факты розных недахопаў. А вось мінчанін І. Бялоў, што жыве па праспекце Машэрава, даслаў допіс, у якім указваецца цэлы «букет» парушэнняў і пралікаў у гандлі, на прадпрыемствах па перапрацоўцы мясамалочнай прадукцыі, грамадскім пасажырскім аўтатранспарце, у добраўпарадкаванні і іншых сацыяльна-бытавых сферах сталіцы.***

***Закранутыя праблемы, узнятыя чытачом, разгледжаны Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам. Намеснік старшыні яго В. Белахвостаў даслаў у рэдакцыю падрабязнае рэагаванне. Некаторыя адказы з яго на пастаўленыя пытанні мы палічылі вартымі таго, каб надрукаваць іх у «Звяздзе».***

— Па фактах парушэнняў санітарных правілаў на прадпрыемствах гандлю ў 1995 г. санэпідэмслужбай аштрафаваны 4528 адказных асоб на суму 866.668.000 рублёў. Перададзена ў следчыя органы 51 справа, з якіх 26 прыняты да выканання. Прыпынена часова або пастаянна эксплуатацыя 720 аб'ектаў, закрыты і знесены 542 кіёскі, пазбаўлены ліцэнзій па прапанове ЦГЭ 136 фірмаў. Забракавана 46.184 кг недабраякасных прадуктаў ці з прайшоўшым тэрмінам захоўвання.

— Рэкамендацыі па паляпшэнню якасці прадаваемай мяса-малочнай прадукцыі, выкладзеныя ў пісьме, вывучаны спецыялістамі гармалзаводаў, мясаперапрацоўчых прадпрыемстваў і кіраўніцтва Мінсксельгасхарчу.

На кожным прадпрыемстве распрацаваны мерапрыемствы па паляпшэнню санітарна-тэхнічнага стану і якасці выпускаемай прадукцыі. У выніку тут прымаюцца меры па поўнай перапрацоўцы малочнай і мясной сыравіны.

Высокія цэны на малочныя і мясныя прадукты залежаць ад кошту сыравіны, з якой яны вырабляюцца. Аднак на прадпрыемствах распрацаваны мерапрыемствы па зніжэнню сабекошту выпускаемай прадукцыі, прадугледжаны комплекс мераў па эканоміі цеплаэнергіі, выпуску новых відаў, нетрадыцыйнай прадукцыі, скарачэнню колькасці кіраўніцкага апарату. Толькі сёлета ўжо асвоена 36 новых відаў мясных і 9 назваў малочных прадуктаў.

— Пастаўку свініны ў гандлёвую сетку горада ажыццяўляюць два халадзільныя камбінаты, на якіх строга сочаць за асноўнымі паказчыкамі атрымліваемай і рэалізуемай прадукцыі. Пастаянна праводзяцца праверкі гандлёвай сеткі горада ўпраўленнем гандлю, санэпідэмслужбай і іншымі інстанцыямі.

— У сувязі з нізкімі нарыхтоўкамі малака ў зімовы перыяд і аб'ёмамі вытворчасці малочнымі заводамі г. Мінска пастаўлялася яно 1,5 працэнта тлустасці. Акрамя таго, у яго дабаўляўся вітамін С, які паляпшае біялагічную каштоўнасць, павышае ўстойлівасць арганізма чалавека да розных захворванняў.

Цяпер нарыхтоўкі малака павялічыліся, таму выпускаецца яно 2,5 працэнта тлустасці. Якасць яго штодзённа кантралюецца лабараторыямі малочных заводаў.

— У горадзе арганізавана 106 жыллёва-эксплуатацыйных службаў, якія ствараюць тэрытарыяльна 10 раённых рамонтна-эксплуатацыйных аб'яднанняў. Адным з напрамкаў вытворчай дзейнасці іх з'яўляецца санітарнае ўтрыманне месцаў агульнага карыстання ў жылых дамах і прыдамавых тэрыторый. Толькі ўнутрыдваровых тэрыторый падлягае ўборцы 27,5 млн. кв. м.

Прывядзенне ў парадак гэтых плошчаў ажыццяўляецца канторай па механізаванай уборцы і ЖРЭА раёнаў. Фактычная колькасць дворнікаў-прыбіральшчыкаў на 1.03.96 г. складала 4043 чалавекі.

— Уладкаванне турнікетных агароджаў на вулічна-дарожнай сетцы горада абумоўлена неабходнасцю рэгулявання пешаходных патокаў з мэтай зніжэння дарожна-транспартных здарэнняў у месцах інтэнсіўнага руху. Замяніць металічныя турнікеты жывой агароджай не заўсёды магчыма: уздоўж вуліц па зялёных зонах пракладзены інжынерныя камунікацыі, якія не дазваляюць праводзіць азеляненне з улікам нарматыўных патрабаванняў. Таксама забаронена пасадка зялёных насаджэнняў у зонах «трохвугольнікаў бачнасці» на перакрыжаваннях вуліц па патрабаваннях ДАІ для забеспячэння бяспекі руху.

Што датычыць пытання рэкламы на пасажырскім транспарце, то ў апошні час было закуплена ў Германіі звыш 100 аўтобусаў. На некаторых з іх сапраўды змешчана рэклама замежных фірмаў. Улічваючы, што яна не рэкламуе рэчы, забароненыя адпаведнымі заканадаўчымі актамі, напрыклад: тытунёвыя і спіртныя вырабы і да т. п., а таксама адсутнасць неабходных сродкаў для перафарбоўвання рухомага саставу (кошт перафарбоўкі аднаго аўтобуса складае каля 7 млн. руб.) прынята рашэнне аб ліквідацыі замежнай рэкламы пры правядзенні чарговых капітальных рамонтаў аўтобусаў.

**Як можна зразумець нават з вышэйпрыведзеных адказаў, у Мінску не ўсё так і добра, але ў той жа час не так ужо ўсё і дрэнна. Значыць, застаецца пакуль адно: спадзявацца на лепшае.**

*ЮРЫДЫЧНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЯ*

## АБ СУМЕСНАЙ СЛУЖБЕ БЛІЗКІХ СВАЯКОЎ

***Часта паступаюць пытанні аб законнасці работы ў саўгасах і іншых дзяржаўных сельскагаспадарчых прадпрыемствах жонак і дзяцей дырэктараў гэтых прадпрыемстваў у якасці галоўных аграномаў, галоўных заатэхнікаў, галоўных спецыялістаў па камерцыйных пытаннях, інспектараў па кадрах, маўляў, яны ж па сваёй рабоце падпарадкоўваюцца непасрэдна дырэктарам — сваім самым блізкім.***

Адказ на такія пытанні змяшчаецца ў артыкуле 20 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь. У гэтым артыкуле прама запісана, што забараняецца сумесная служба на адным і тым жа дзяржаўным прадпрыемстве, ва ўстанове, арганізацыі асоб, якія знаходзяцца паміж сабой у блізкім сваяцтве (бацькі, муж і жонка, браты, сёстры, сыны, дочкі, а таксама браты, сёстры, бацькі і дзеці мужа і жонкі), калі іх служба звязана з непасрэднай падпарадкаванасцю ці падкантрольнасцю аднаго з іх другому.

Праўда, у другой частцы артыкула 20 КЗаП Рэспублікі Беларусь прадугледжана, што ў неабходных выпадках выключэнні з гэтага правіла могуць устанаўлівацца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Зыходзячы са сказанага і ўлічваючы спецыфіку некаторых відаў працоўнай дзейнасці служачых, Савет Міністраў БССР 23 сакавіка 1973 года зацвердзіў Пералік работнікаў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, у адносінах да якіх могуць дапускацца выключэнні з правіла аб абмежаванні сумеснай службы сваякоў, прадугледжанага арт. 20 КЗаП. І ў гэты Пералік, разам з некаторымі работнікамі розных галін народнай гаспадаркі, уваходзяць спецыялісты сельскай гаспадаркі, якія працуюць у дзяржаўных сельскагаспадарчых прадпрыемствах (арганізацыях) ці размешчаных у сельскай мясцовасці навукова-даследчых установах па сельскай гаспадарцы.

Таму, кіруючыся вышэйпералічаным, як спецыялісты сельскай гаспадаркі, жонка ці дзеці могуць працаваць галоўнымі аграномамі ці галоўнымі заатэхнікамі саўгаса ці іншага дзяржаўнага сельскагаспадарчага прадпрыемства з непасрэднай падпарадкаванасцю дырэктарам — сваім мужам ці бацькам.

Што ж датычыць інспектара па кадрах ці галоўнага спецыяліста па камерцыйных пытаннях, якія таксама непасрэдна падпарадкоўваюцца дырэктарам прадпрыемстваў, то жонкі і дзеці не маюць права працаваць на гэтых пасадах, калі прадпрыемства ўзначальваюць іх мужы ці бацькі.

Таму, калі дзесьці ў саўгасах ці іншых дзяржаўных сельскагаспадарчых прадпрыемствах ёсць выпадкі прыёму на гэтыя пасады сваіх жонак ці дзяцей і яны пакуль працуюць на гэтых пасадах, то дырэктары павінны неадкладна выправіць дапушчанае ў свой час парушэнне закона: адмяніць загады аб прыёме сваёй жонкі ці сына на пасаду інспектара па кадрах ці галоўнага спецыяліста па камерцыйных пытаннях і перавесці іх на такую работу ў саўгасе ці іншым дзяржаўным сельгаспрадпрыемстве, дзе б яны непасрэдна падпарадкоўваліся іншай службовай асобе, якая не з'яўляецца ім блізкім сваяком (напрыклад, начальніку аддзялення, начальніку майстэрань і г. д.) ці аказаць ім садзейнічанне ў працаўладкаванні ў адпаведнасці з іх адукацыяй і спецыяльнасцю ў размешчаных на тэрыторыі гаспадаркі ці паблізу яе ўстановах адукацыі, аховы здароўя, культуры, сувязі і г. д.

**В. ДАМАШЭВІЧ,**
**галоўны спецыяліст юрыдычнага аддзела Савета Федэрацыі прафсаюзаў.**

Матэрыялы старонкі падрыхтаваў да друку Іван БРАЛКА.

# КАЛЕКТЫЎНАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ПІНСКДРЭЎ»:



## Высокая якасць, прэстыж, міжнароднае прызнанне

**Прадукцыю калектыўнага аб'яднання «Пінскдрэў» сёння, бадай, няма вялікай патрэбы прадстаўляць на айчынным рынку. Многія з нас штодзень паспяхова карыстаюцца запалкамі, якія выпрабляюцца ў Пінску. Не сумняваюся, што вялікай папулярнасцю сярод насельніцтва карыстаюцца корпусная мэбля, кухонныя наборы, фанера, ДСП. Асаблівае месца ў шырокім асартыменце прадукцыі «Пінскдрэва» займае мяккая мэбля, якая знайшла свайго пакупніка не толькі на прасторах СНД, але і ў многіх краінах далёкага замежжа.**

**Пацвярджэннем сказанага стала нядаўняя юбілейная выстаўка ў польскім горадзе Познані «Мэбля-96», дзе да таго ж праходзіла выстаўка дрэваапрацоўчага абсталявання.**

**Свае экспазіцыі прадставілі многія заходнія фірмы Іспаніі, Францыі, Італіі, Германіі, Чэхіі, Польшчы. Візітнай карткай прадукцыі рэспублік былога Саюза была экспазіцыя «Пінскдрэва». Пінчане на 80 квадратных метрах выставілі на паказ як корпусную мэблю, так і некаторыя іншыя віды прадукцыі. Асаблівую цікавасць для заходніх партнёраў уяўляла мэбля з масіўнай драўніны — вольхі, асіны.**

**Вялікую ўвагу іншаземцы праявілі і да пінскага стэнда фанеры і драўнянастружкавых матэрыялаў, што пацвердзілася вялікай колькасцю прапаноў аб супрацоўніцтве.**

**Выстаўку ў Познані наведаў прэзідэнт Польшчы Квасьнеўскі.**

**Экспазіцыю «Пінскдрэва» агледзеў пасол Беларусі ў Рэспубліцы Польшча Віктар Бурскі. Ён быў прыемна здзіўлены, убачыўшы землякоў, і даў высокую ацэнку іх экспанатам, зазначыўшы, што пінчане ў дрэваапрацоўцы і вытворчасці мэблі зрабілі вялікі крок наперад.**

**Аб выніках сустрэчы з паслом, аб уражаннях ад познаньскай выстаўкі, наша размова з генеральным дырэктарам «Пінскдрэва» Ларанам АРЫНІЧАМ.**




**АРАН СЦЯПАНАВІЧ, пасля выстаўкі ў Познані вы можаце сказаць, што выставачныя плошчы «Пінскдрэва» спрацавалі не ўхаластую?**

— Вядома. Я, як і мае калегі, задаволены тым, што мы змаглі прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве. І нам удалося як на іншых паглядзець, так і сябе паказаць. На гэты раз наш калектыў быў прадстаўлены сапраўды ў новым ракурсе. І мы не толькі прадстаўлялі прадукцыю дрэваапрацоўкі, у аснове якой — мяккая мэбля, але і з'ўляліся салідными вытворцамі корпуснай мэблі.

Скажу вам, што атрымаць выставачныя плошчы ў Познані было не зусім проста. І толькі з-за таго, што познаньская выстаўка была юбілейнай, 75-й па ліку.

І мне вельмі прыемна, што прадукцыя «Пінскдрэва», глядзелася дастойна ў параўнанні з экспазіцыямі вядомых замежных фірмаў, у аснове якіх пераважала мяккая мэбля.

Гэта адзначыў і пасол РБ у Польшчы Віктар Бурскі. Думаю, што наш удзел у познаньскай выстаўцы выклікаў вялікую цікавасць з боку заходніх партнёраў і ў хуткім часе ў нас з'явяцца добрыя кантракты і прапановы. Першыя з іх ужо ў нас ёсць.

Жыццё даказала, што мы сапраўды на правільным шляху, што наш калектыў нацэлены на заўтрашні дзень як у пытаннях рыначнай эканомікі па частцы прыватызацыі, так і ў пытаннях выхаду на міжнародны рынак, умацавання свайго іміджу.

Я дакладна разумею, што наперадзе нас чакае вялікая работа, асабліва ў галіне тэхнічнага пераўзбраення прадпрыемства.

Дарэчы, пачынаючы дзесьці з 1992 года мы ўдзяляем максімум увагі тэхнічнаму пераўзбраенню, укараненню «ноу-хау», асваенню новых відаў прадукцыі, што дае свой плён.

Толькі за 1995 год у дзяржбюджэт мы заплацілі 93 млрд. рублёў. І штогод нарошчваем аб'ёмы вытворчасці. У гэтым годзе ў нас ёсць зноў прырост: за пяць месяцаў 1996 года ён склаў 108 працэнтаў у супастаўных цэнах у параўнанні з тым жа перыядам мінулага года.

А яшчэ зусім нядаўна ў нас было вельмі складанае фінансавае становішча. Упаў збыт. Але рабочы энтузіязм, добрасумленнасць дазволілі «Пінскдрэву» ўтрымацца на плаву. І вынік гаворыць сам за сябе.

**— Ларан Сцяпанавіч, тое, што прадукцыя «Пінскдрэва» з'яўляецца прэстыжнай не толькі ў рэспубліцы, — факт. Але гэта, так сказаць, заслуга тэхналогіі. А як ацэньваюць у цэлым магчымасці вашага калектыва, яго здольнасці працаваць у новых умовах?**

— Мяркуйце самі. Нядаўна нашаму аб'яднанню прысвоены ганаровыя прызы ў Іспаніі і ЗША. У ліпені ў Мадрыдзе адбудзецца міжнародны форум, куды збяруцца дзелавыя людзі свету.

Тым калектывам, якія найбольш вызначыліся ў рыначнай эканоміцы, будуць уручаны дыпломы, хрустальныя зоркі. Сярод узнагароджаных значыцца і «Пінскдрэў». Такога высокага гонару за маю 14-гадовую бытнасць на пасадзе кіраўніка аб'яднання пінчане дабіваюцца чацвёрты раз.

Ну, а ў пачатку 1996 года нам прысуджана яшчэ адна ўзнагарода: прэстыжны і ганаровы дыплом



«Факел Бірмінгама». Дарэчы, другі год запар.

Думаю, няма патрэбы гаварыць пра значнасць гэтых узнагарод для Беларусі. Аднак я ведаю дакладна: гэтыя ўзнагароды гавораць аб добрым іміджы рэспублікі за мяжой. Згадзіцеся, што гэта нямала.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

***НАШ АДРАС:* Рэспубліка Беларусь. 225710, г. Пінск, вул. Чуклая, 1.**
***Тэл.: (01653)— 5-51-61; 5-69-28; 5-52-11.***
***Факс (01653)— 5-66-64; 5-66-34; 5-05-52.***







**НА ЗДЫМКАХ:**
**1. Пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча Віктар Бурскі (пасярэдзіне) сярод удзельнікаў выстаўкі.**



**Мэбля, прадстаўленая КА «Пінскдрэў» на выстаўцы ў Познані.**
**2. Мяккі куток «Анастасія».**
**3. Кухонны набор з масіўнай драўніны вольхі «Святлана».**
**4. Набор корпуснай мэблі «Берта».**
**5. Набор корпуснай мэблі «Акра».**



# ПРАВА НЕ ТОЛЬКІ ПРАСІЦЬ

**ТРЭБА СКАЗАЦЬ,** што ў часы ваяўнічага атэізму на Браслаўшчыне вернікі розных канфесій не так балюча адчувалі ціск афіцыйнай ідэалогіі. Не, касцёлы і цэрквы і тут зачынялі, і тут святарам даводзілася нясоладка. Але разбуралі, за невялікімі выключэннямі, няшмат. Найчасцей ператваралі памяшканні храмаў у склады, ліманадныя ды каўбасныя цэхі. У дамах святароў, манастырскіх памяшканнях размяшчалі вучэльні ці медыцынскія ўстановы. І таму, калі прыйшла пара вяртання, калі вера перастала быць жабрачкай, схаванай у бабуліных пакойчыках, — вернікам было што патрабаваць ва ўладаў, за што змагацца. Увогуле, Браслаўшчына ў гэтым плане — куток Беларусі вельмі адметны. Дастаткова сказаць, што крыху больш чым на 30 тысяч жыхароў раёна сёння зарэгістраваны і дзейнічаюць 15 рымска-каталіцкіх, 7 — праваслаўных, 7 — стараверскіх, мусульманская рэлігійныя абшчыны і самая маладая абшчына — царквы веры Евангельскай.

За выключэннем апошняй названыя рэлігійныя канфесіі маюць на Браслаўшчыне вялікую гісторыю, традыцыі. Найбольшая з іх, безумоўна, рымска-каталіцкая. У свой час ціск на яе быў мацнейшы, але вызначае вернікаў гэтай канфесіі згуртаванасць, уменне адстойваць свае інтарэсы. 11 ксяндзоў абслугоўваюць парафіі, некаторым даводзіцца працаваць у некалькіх. Вось і браслаўскі ксёндз Стэфан Пракурата апекуецца аж над пяццю. За апошнія гады нямала зроблена па аднаўленню касцёлаў, многія работы яшчэ не завершаны, адбываецца і паступовая перадача вернікам будынкаў, якія раней належалі канфесіі. Але тут у іх пажаданні значна большыя, чым могуць зрабіць улады. Ну як, напрыклад, перадаць будынак у Слабодцы ці былую плябанію ў Відзах, калі там размешчаны медыцынскія ўстановы, лечацца людзі? Рашэнне, вядома ж, можа быць і «крутым» — вярнуць некалі забранае. Але ж тады, паклапаціўшыся аб духоўным, людзей абмяжуюць у фізічнай дапамозе хворым, што таксама неміласэрна.

Амаль што аналагічнае становішча і ў праваслаўных цэрквах. Перадаюцца будынкі, ёсць і тут свае нараканні на маруднасць. Менш за іншыя пацярпелі ў часы ўціску стараверскія цэрквы. Прадстаўнікі гэтай канфесіі здаўна вызначаліся сваёй цярпімасцю, імкненнем жыць ціхім і адасобленым жыццём.

Да гонару мясцовых уладаў, яны не толькі ахвотна ідуць насустрач вернікам пры вырашэнні пытанняў рэгістрацыі, вяртання храмаў, але і не робяць ніякай розніцы паміж прадстаўнікамі розных канфесій. І калі кіраўнікі арганізацый, устаноў, гаспадарак дапамагаюць пры аднаўленні храмаў — няма розніцы, касцёл гэта альбо царква. Што ж, традыцыя трывалая, наш народ заўжды вызначаўся верацярпімасцю, таму і жывуць сёння побач з католікамі стараверы, якія некалі ўцякалі ад жахаў расійскіх законаў, татары, што таксама назвалі нашу зямлю роднай.

Але не трэба маляваць ідылічнай карцінкі. Часам у адносінах улады і царквы адчуваецца напружанасць, а то і варожасць. Найперш можна гэта сказаць пра рымска-каталіцкую канфесію. 6 ксяндзоў на Браслаўшчыне — грамадзяне Польшчы, адзін — Літвы. Гэта прыўносіць у рэлігійнае жыццё абшчын пэўны прысмак. Не, улады не адмаўляюць ім у перарэгістрацыі, сёлета яе прайшлі ўсе. Але, напрыклад, у Опсе ксёндз прывёз з сабою манашак. Ім таксама неабходна прайсці рэгістрацыю па ўсіх правілах, мець неабходныя дакументы. Але тут узнікаюць цяжкасці. І вернікі ўжо з недаверам ставяцца да дзейнасці ўладаў. Але ж справа ў тым, што раённыя ўлады да рэгістрацыі грамадзян з-за мяжы маюць мала дачынення — займаюцца гэтым у Віцебску. Хаця, зразумела, на месцы, у раёне лепш відаць. Пры такой колькасці канфесій, абшчын увогуле трэба было б падумаць і аб прадстаўніку ўлады, які б непасрэдна ў раёне працаваў з вернікамі. Намеснік старшыні райвыканкома Ніна Пучынская ўпэўнена, што такая пасада неабходная, яна дапаможа зняць многія пытанні.

— А ёсць жа яшчэ і такія факты, — гаворыць яна, — калі прыязджае ў раён турыст-святар з той жа Польшчы. І, не маючы ніякага дазволу, пачынае сваю дзейнасць. Людзі ж ідуць да нас: зарэгіструйце. Думаю, што калі б наш настаўнік, напрыклад, прыехаў турыстам у Польшчу і пачаў педагагічную дзейнасць, гэта выклікала б сама меней глыбокае абурэнне. Дык чаму ў касцёле можна не зважаць на прынятыя законы? Я думаю, што ёсць неабходнасць і па ўвядзенню квот на знаходжанне ў раёне, на пэўную колькасць вернікаў, грамадзян з іншых краін.

Трэба сказаць, што самі законы, палажэнні аб рэгістрацыі святароў з-за мяжы не даюць адказаў на ўсе пытанні. І калі ёсць розначытанні — не пазбегнуць канфліктаў.

...Пасёлак Відзы ў Браслаўскім раёне — тыповы. Тут дзейнічае касцёл, царква старавераў, мусульманская абшчына. Ёсць і праваслаўныя, але яны адносяцца да абшчыны Богінскай царквы, што ў дзесятку кіламетраў ад пасёлка. Самая старая ў пасёлку — царква старавераў. Абшчына немалая, але пераважаюць у ёй старыя людзі, ужо знясіленыя работай і пражытымі гадамі, якія шукаюць у храме палёгкі для душы, але самі храму ўжо мала чым могуць дапамагчы. Царква так ні на адзін год і не зачынялася. Але павевы новага часу закранулі і яе. Звон абарвалі, тры разы царкву рабавалі — вынеслі самыя каштоўныя старажытныя абразы. Цяпер, праўда, яна падключана да сігналізацыі — у пасёлку ёсць сваё аддзяленне міліцыі. Але напаткала храм новая бяда — адна са сцен пачала адыходзіць, відаць, прасядае падмурак. Што можа зрабіць абшчына са старых людзей? Звяртаюцца па дапамогу, чакаюць яе — помнік жа архітэктуры. Святар Фёдараў тут ужо тры гады, многае здолеў зрабіць з дапамогай мясцовых калгаса «Уперад», прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча. Ён, ветэран вайны, адмовіўся ад заработнай платы — пражыву і на пенсію, а грошы патрэбны храму. Мясцовыя ўлады вызвалілі абшчыну на 50 працэнтаў ад падатку на зямлю.

А Відзаўскі касцёл яшчэ ў будаўнічых рыштаваннях. Галоўная праблема — недахват грошай. Парафія вялікая, толькі ў суседняй Літве да яе адносяцца каля трыццаці населеных пунктаў — людзі карыстаюцца правам спрошчанага пераходу мяжы — але на людскія капейкі сёння такога велічнага храма не аднавіць. Вышыня касцёла 70 метраў. У 1989 годзе перадалі яго вернікам. Неўзабаве перакрылі адну з вежаў. А на другую не хапіла грошай. Ды і ўнутры работы вельмі шмат.

Але найбольшае напружанне ў пасёлку стварае пытанне з мусульманскай абшчынай. Некалі дзейнічала ў Відзах мячэць, жыў мула. У 1967-м мячэць разабралі і з яе ў Браславе пабудавалі нейкую кантору. Дом жа мулы стаў служыць іншым мэтам, а потым яго ператварылі ў тры кватэры. Мусульманская абшчына, якая зарэгістравана ўжо тры гады, хоча, каб улады вярнулі гэты дом. Кіраўнік абшчыны Марыя Гімбіцкая гаворыць:

— Мы разумеем, што сёння ўсім цяжка. Але ж мячэць ад дзяржавы мы і не патрабуем. Нам бы два пакойчыкі для малітваў, нейкае памяшканне для мулы — абяцаюць прыслаць. У той жа час новы старшыня пассавета Мікалай Ільюшонак, які, па выказваннях усіх вернікаў, вельмі прыхільна ставіцца да іх праблем, разводзіць рукамі. Паспрабавалі выселіць з адной кватэры ў былым доме мулы жыхара, але суд не прызнаў гэта законным. А ў такім пасёлку, як Відзы, пра будаўніцтва жылля толькі ўспамінаюць.

І ўсё-такі надзея ў мусульман ёсць. Бо ўлады цвёрда абяцаюць дапамагчы ўжо ў бліжэйшай будучыні.

Ездзіў па Браслаўшчыне, знаёміўся з жыццём і праблемамі вернікаў і сам сабе адзначаў, што более сярод іх моладзі. Пры касцёлах і цэрквах дзейнічаюць нядзельныя школы. Паступіла заява аб стварэнні жаночага манастыра. Увогуле ў раёне адзначаюць, што да 90 працэнтаў рэгістрацый шлюбаў, нованароджаных не абыходзяцца без рэлігійных абрадаў. А ў Відзах на вуліцы выпадкова пазнаёміўся з хлопцам, які раз'язджае на «іншамарцы». Ён з сябрамі па ўласнай ініцыятыве і на сабраныя ў парафіі грошы аднаўляе ля ўезду ў пасёлак некалі разбураную капліцу. Зразумела, бясплатна.

Я зусім не думаю, што ў бліжэйшыя часы Браслаўшчына, Заходняя Беларусь набудуць афарбоўку клерыкалізму. Але актыўнасць вернікаў расце, яны ўсё больш разумеюць, што маюць права не толькі прасіць, але і патрабаваць на законных падставах. Але найбольш усцешвае, што актывізуюцца ўсе канфесіі. Хай квітнее кожная.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

*Браслаўскі раён.*

# МЕСЦА СУСТРЭЧЫ ЗМЯНІЦЬ НЕЛЬГА — МАГІЛЁЎШЧЫНА. РОДНЫ КУТ МАСТАКА

**ЗДАЕЦЦА**, так нядаўна ўсё гэта было — урачыстае адкрыццё міжнароднага пленэру па жывапісу імя Вітольда Каэтанавіча Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве. Радасныя надзеі, спадзяванні, знаёмствы, многа кветак, сонца і музыкі... І вось прыйшоў час падводзіць вынікі амаль месячнай работы мастакоў — прадстаўнікоў розных краін, што прыехалі ўшанаваць памяць славутага сына зямлі беларускай, які так натхнёна апеў гэты край, уславіў Беларусь. У знак сваёй вернасці Бацькаўшчыне Вітольд Біруля, знакаміты майстар, чые работы на выстаўках у 1911 годзе ў Барселоне і Мюнхене ўзнагароджваюцца Вялікімі залатымі медалямі, ставіў на карцінах свой подпіс — Бялыніцкі-Біруля. Гэта значыла: родам з-пад Бялынічаў — шаную свае вытокі. І пасля сваёй смерці ён завяшчаў перадаць значную частку сваіх работ туды, адкуль ён пайшоў у вялікі свет. Удзячныя суайчыннікі зрабілі тут музей.

Праграма пленэра была вельмі насычанай. Па задуме арганізатараў удзельнікі павінны былі пабываць у Бялыніцкім, Бабруйскім, Горацкім, Мсціслаўскім і Асіповіцкім раёнах. Паўсюль, куды прыязджалі мастакі, іх шчодра і гасцінна сустракалі, для іх спявалі і танцавалі мясцовыя мастацкія калектывы. У вандроўках па Магілёўшчыне ўдзельнікі пленэру маглі бачыць жыццё такім, якое яно ёсць. А работа на вольным паветры не заўсёды была вельмі прыемнай і лёгкай: то паліла сонца, то ліў дождж. Яны пабачылі край Бірулі ўсякім — шэрым і змрочным у непагадзь, срабрыста-блакітным у ясную раніцу, ружова-ліловым у халаднаватую месячную ноч. Яны ўсе пабачылі зямлю, неба і ваду Бялыніцкага-Бірулі.

— **У АРГАНІЗАЦЫЮ ГЭТАГА ПЛЕНЭРА** ўкладзена нямала сродкаў, а галоўнае — нашай душы, — сказаў адзін з тых, на чые плечы быў узвалены цяжар адказнасці за яго правядзенне, начальнік упраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкома Міхаіл Дарашкоў. — Калі мы задумалі ажыццявіць такую магутную культурную акцыю ў сябе на Магілёўшчыне, нас не ўсе разумелі. Маўляў, час цяпер цяжкі. А калі ён быў лёгкі? Заняпад у эканоміцы ў многім звязаны з нізкім культурным узроўнем грамадства. Мы не ведаем сваёй спадчыны, сваіх геніяў і апосталаў духу, можа таму і не маем таго пачуцця патрыятызму, якое ўласціва тым жа ўкраінцам, літоўцам.

Усе канцэрты, фестывалі, выстаўкі, выступленні знакамітых артыстаў звычайна адбываліся ў Мінску ці Маскве. А для правінцыі, лічылі, усё гэта неабавязкова. Такая культурная палітыка ніяк не спрыяла развіццю самой культуры. А хіба ж Магілёўшчыне няма чым ганарыцца? Адзін толькі Вітольд Біруля — гэта цэлая з'ява ў мастацтве. Адкрыць яго геній суайчыннікам — ці не пачэсная місія?

Што значыць зладзіць міжнародны пленэр у Магілёве? Перш за ўсё гэта, канешне, арганізаваць прыём і плённую работу мастакоў, выдаць каталог выстаўкі, наладзіць саму выстаўку. Але колькі аказалася дадатковых праблем! Напрыклад, старадаўні будынак, у якім месціўся Магілёўскі абласны мастацкі музей, вырашыла прыбраць да сваіх рук адна банкаўская структура. Давялося сур'ёзна змагацца за гэты будынак. А адваяваўшы, хутка прыводзіць яго ў прыстойны выгляд. Напрыклад, памянялі старыя, напаўспарахнелыя драўляныя разныя дзверы на новыя, заказалі новую шыльду, зрабілі рамонт у памяшканнях, дзе павінна адбыцца выстава, тое-сёе адрэстаўравалі, паклалі асфальт на плошчы каля будынка музея, пасадзілі кветкі. Калі б не пленэр, то не хутка, напэўна, дайшла б чарга да такіх пераўтварэнняў. А цяпер тут усё як у нармальным еўрапейскім горадзе: тэатр, музеі, фантаны, музыкальнае вучылішча, ліцэй музыкі і харэаграфіі, бібліятэка, навукова-метадычны цэнтр культуры, акадэмія музыкі, вучылішча культуры, абласная філармонія, фабрыка мастацкіх вырабаў... Сюды не адмаўляюцца цяпер прыехаць праслаўленыя музыканты аркестра Расіі «Віртуозы Масквы».

**ДЗЕНЬ ЗАКРЫЦЦЯ ПЛЕНЭРА** па праву можа лічыцца гістарычным днём у летапісе Магілёва. Па-першае, у дворыку музея імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі выдатнаму беларускаму мастаку быў адкрыты помнік-бюст. (Аўтары — скульптар Уладзімір Лятун і архітэктар Уладзімір Чаленка). Мужчынскі хор «Унія» выканаў з гэтай нагоды некалькі твораў. А пасля ўрачыстасці перамясціліся на плошчу ля магілёўскага абласнога мастацкага музея, які носіць цяпер імя мастака П. Масленікава, таксама ўраджэнца Магілёўшчыны.

**ПА ПРАВІЛАХ**, кожны мастак, які прымаў удзел у пленэры, а іх было 23 чалавекі, — павінен быў прадставіць тры сваіх работы для выставы. Адна з іх пераходзіла ва ўласнасць музея як падарунак, а другую музей закупляў у аўтара. Па цане, трэба заўважыць, вельмі сімвалічнай. Некаторыя мастакі ў дадатак да гэтага падаравалі яшчэ па адной рабоце. Такім чынам, атрымалася вельмі прыстойная калекцыя сучасных твораў мастацтва.

На прэс-канферэнцыі, наладжанай з нагоды адкрыцця выставы, журналісты папрасілі падзяліцца сваімі думкамі аб пленэры яго ўдзельнікаў.

**Міла МАРКЕЛАВА, Расійская Федэрацыя.**

**— Не хапала іншым разам часу на працу. Бо гаспадары хацелі многае паказаць, наладзіць сустрэчы. А для работы патрэбны пакой, цішыня, засяроджанасць.**

**Бажыдар КАВАЧАВІЧ, Сербія.**

**— Для нашай пл**ё**ннай работы ў Беларусі вельмі важна было як мага больш бачыць. І мы гэта маглі рабіць у паездках. Але самае важнае — сустрэча і знаёмства мастакоў з Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Францыі, Беларусі... Я думаю, што работа на вольным паветры надзвычай важная для жывапісца. Там знойдзеш пачуцця і любові куды больш, чым у майстэрнях.**

**Рыгор ТАБОЛІЧ, Магілёў.**

**— Не толькі я, але і ўсе астатнія мастакі зрабілі мноства эцюдаў у час пленэра. Яны яшчэ недапрацаваныя. Але несумненна, што мы атрымалі выдатны творчы імпульс.**

**Генадзь ШУТАЎ, Віцебск.**

**— Я вельмі добра разумею, які высокі мастацкі ўзровень твораў Вітольда Бірулі. Дасягнуць яго няпроста. Я з асаблівым хваляваннем пісаў пейзажы на пленэры. Спачатку гэта былі малюнкі, пасля я рабіў акварэлі. Мне здаецца, што ў нейкай меры я наблізіўся да таямніцы майстра. Яшчэ б дзён 10 папрацаваць, давесці да ладу накіды...**

**Віктар ГРАМЫКА, старшыня журы мастацкай выстаўкі.**

**— На выставе дэманструецца толькі невялікая частка зробленага ў час пленэру мастакамі. Яе задумвалі правесці пад эгідай развіцця рэалістычнага мастацтва. Але ў рамках рэалізму тут прадстаўлены многія сучасныя стылі. Мне давялося прымаць удзел у многіх пленэрах, бачыць іх творчы плён і я скажу, што наша выстава мае прывабны твар. Біруля вучыў бачыць у простым, маленькім, звыклым вялікае і прыгожае. Гэта менталітэт беларускага мастака. Усе творы, прадстаўленыя на выставе, спавядаюць ідэалогію патрыятызму, скіраваны на далейшае пашырэнне творчай спадчыны Бірулі.**

Трое ўдзельнікаў выставы — Дзмітрый Алейнік з Гомеля, Бажыдар Кавачавіч з Сербіі, а таксама старэйшы ўдзельнік пленэру 82-гадовы мастак Антон Бархаткоў, вучань В. Бялыніцкага-Бірулі, атрымалі тры першыя прэміі. Яшчэ пяцёра былі адзначаны ўпраўленнем культуры Магілёўскага аблвыканкома: Уладзімір Шпартаў, Мікалай Аўчыннікаў, Аляксандр Шэрамет, Леанід Дударэнка, Анатоль Бараноўскі.

Прынамсі, выстаўку пленэра, як сказаў намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка, мяркуецца правезці па ўсёй Беларусі. Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, якое ўзяло на сябе выданне каталогу і стварэнне помніка мастаку, лічыць гэта працягам культурнай акцыі, ініцыянаванай у свой час пісьменнікам Віктарам Карамазавым і падтрыманай кіраўніцтвам Магілёўскай вобласці.

Мы многа гаворым цяпер пра адраджэнне. Але мала, як правіла, робім нешта канкрэтнае дзеля адраджэння. Пленэр на Магілёўшчыне — яскравы прыклад таго, як годна ўздымае галаву беларуская правінцыя, як пачынаюць адчуваць сябе гаспадарамі сваёй зямлі і свайго лёсу грамадзяне нашай рэспублікі. Беларусь пачынаецца з мары і з працы.

**Таццяна АНТОНАВА.**

**P.S. У 1997 годзе Магілёўшчына зноў будзе праводзіць пленэр, які прысвячаецца 125-годдзю з дня нараджэння В. Бялыніцкага-Бірулі. А пасля ён будзе праходзіць з перыядычнасцю праз два гады.**

***Пра тое, што становішча ў Беларусі з беларускай мовай набывае ўсё больш трагічную афарбоўку, сведчаць шматлікія лісты чытачоў, якія безупынным патокам паступаюць у газету. Рэальнай роўнасці двух моў — беларускай і рускай — у нас не існуе, канстатуюць аўтары пісьмаў. Гэта хвалюе і непакоіць усіх тых, хто нераўнадушны да нацыянальнай культуры, да лёсу сваёй Бацькаўшчыны. На нашу думку, гэта павінна выклікаць занепакоенасць і ў беларускага кіраўніцтва.***

**Загадчыца аддела культуры Таццяна АНТОНАВА.**

# ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ — У НАРОД!

Добры дзень, паважаная газета «Звязда». Хацелася б і мне, простаму чалавеку, выказаць свае меркаванні наконт беларускай мовы і чаму яна гіне. Я лічу, што наша інтэлігенцыя, нашы настаўнікі, пісьменнікі не хочуць гаварыць са сваім народам. Добра, што яшчэ час ад часу пішуць артыкулы ў газеты. А цяпер такі час, калі неабходна весці культурна-асветную работу сярод людзей, і асабліва ў школах, садках. І гэта можа даць плён праз 10—20 гадоў.

Чаму ў нас такая нізкая свядомасць? Таму, што нам з дзяцінства ўбівалі ў галовы, што беларуская мова непрыгожая, а мы самі або палякі, або рускія. Мая маці вучылася ў школе ўсяго два гады, але гэта была польская школа, і маці лічыць сябе полькай, нас таксама запісала палякамі, хоць усё жыццё размаўляла па-беларуску, або, як яна кажа, «па-простаму».

Русіфікацыя ажыццяўляецца цяпер у школах, садках, ПТВ, СПТВ, ФЗН, вучылішчах і інстытутах. Яшчэ трэба дзякаваць Богу, што мы хоць на «трасянцы», але ўсё ж размаўляем па-беларуску. Але хто паверыў, што наша мова непатрэбная, той актыўна знішчае яе. Бацькі не пускаюць сваіх дзетак у беларускія класы.

Я вучыўся ў беларускай школе. У 1955 годзе да нас прыслалі настаўнікаў з Расіі — матэматыкаў, фізікаў, хімікаў, а таксама выкладчыкаў англійскай мовы і фізкультуры. Першы год яны прасілі нас, каб мы адказвалі на пытанні як нам лепш. Але ж у нас падручнікі былі беларускія, і таму часцей мы адказвалі па-беларуску. Аднак ужо на другі год нам сталі заніжаць адзнакі за адказ на беларускай мове. І ніхто за нас не заступіўся, не знайшлося настаўніка, які дапамог бы нам усвядоміць сябе беларусамі. А потым армія, праца ў горадзе, дзе ўсе па-руску, таму што начальнікі з Расіі, справаводства — па-руску, навучальныя ўстановы — па-руску... Толькі ў вёсках яшчэ можна пачуць родную мову, ды і то стараюцца яе адтуль выціснуць.

Каб адрадзіць беларускую мову, цяпер патрэбны каласальныя намаганні, і ў першую чаргу беларускай інтэлігенцыі. Розныя таварыствы і фонды абавязаны дапамагаць настаўнікам беларускай мовы, беларускім школам і маральна, і матэрыяльна.

*г. Магілёў.* **П. БУЗО.**

# НЕ ЛІЧЫЦЕ НАС ДРУГІМ ГАТУНКАМ

Першы раз узялася за паперу, каб выказаць думкі пра стан беларускай мовы.

Лічу, што рэферэндум быў праведзены занадта рана. Не трэба было быць «разумнікам», каб прадказаць яго вынік. Людзі, якія шмат гадоў размаўлялі на рускай мове, безумоўна, не захочуць мець лішнія клопаты, каб вывучаць беларускую мову.

Мне хочацца задаць пытанне тым, хто стаіць на вяршыні ўлады: «Хто думаў пра нас, вясковых школьнікаў, якія ўсё школьнае жыццё вучыліся ў беларускай школе, як нам перайсці на рускую мову ў тэхнікуме ці ў інстытуце?»

А паспрабуйце на ўроку адказаць на пытанне, якое задаецца на рускай мове, калі ты не чуў ніводнага тэрміна любога прадмета, які вывучаецца.

Я сама вучылася выдатна, а першыя месяцы вучобы ў педвучылішчы былі для мяне горшымі за катаргу. Адчуваеш сябе «няўмекай».

Пачалі пісаць пра рэформу адукацыі, але перш чым яе праводзіць, трэба забяспечыць роўнасць беларускай і рускай моў. Трэба менш гаварыць, а больш рабіць у гэтым накірунку. Чаму да гэтых часоў у інстытуце выкладанне вядзецца на рускай мове (не трэба лічыць таго, што некалькі энтузіястаў дзе-нідзе прачыталі некалькі лекцый па-беларуску)?

Хопіць лічыць сельскую школу, школьнікаў і іх настаўнікаў горшымі з-за таго, што яны выкладаюць на беларускай мове. А беларускамоўныя школы толькі і жывуць на вёсцы, бо ўжо ў раённым цэнтры ўсе школы рускамоўныя. Лічу, што чалавек, які працуе на дзяржаўнай пасадзе, павінен ведаць і рускую, і беларускую мовы.

**І. БОРТНІК,**
**настаўніца-пенсіянерка.**
*Міёрскі раён, в. Перабродздзе.*

# «МОВА СЭРЦА» і «МОВА ХЛЕБА»

У славенскага пісьменніка Прэжыхава Воранца ёсць невялікае апавяданне «Добрая раніца». Аповяд у ім вядзецца ад імя маленькага хлопчыка, вучня вясковай школы, у якой выкладанне праходзіла ў першым класе на славенскай мове, а далей — па-нямецку. У старэйшых класах славенская мова вывучалася як прадмет, у нязручны час і толькі ў тым выпадку, калі набіралася пэўная колькасць вучняў. З прыходам новага настаўніка, які зусім не ведаў мясцовай мовы, дзецям, акрамя таго, давялося па-нямецку вітацца і маліцца. Гэта было нялёгка, але праз паўгода ўсе школьнікі прывыклі вітацца так, як належыць. Настаўнік хваліў вучняў за тое, што, нарэшце, яны сталі людзьмі.

Хлопчыкаў бацька заўсёды адпраўляў сына на ўрокі славенскай мовы. З равеснікамі і аднавяскоўцамі герой размаўляў толькі па-славенску.

Неяк хлопчык пагнаў кароў на пашу. Здалёк ён убачыў па-панску апранутага чалавека, які ішоў насустрач. На якой жа мове з ім прывітацца? Падобна, гэта быў немец, значыць, і звярнуцца да яго трэба па-нямецку. А раптам гэта славенец? Калі мужчына падышоў бліжэй, у хлопчыка неяк само па сабе вырвалася нямецкае прывітанне: «Гутэн морген!»

«Голас мой прагучаў неяк урачыста і ўгодліва, аж у самога сэрца здрыганулася. Немец павінен быць задаволены, падумаў я, супакойваючыся.

Ды раптам нібыта ўвесь свет перада мною перакуліўся. Незнаёмец павярнуў галаву ў мой бок, і я ў ягоных вачах убачыў суровы дакор, асуджэнне, а потым пачуў падкрэслена гучна і выразна, сказанае па-славенску:

— Добрай раніцы, малады чалавек!

Гэта было так неспадзявана, што я застыў, ашаломлены. У мяне аж у вачах пацямнела і стала так сорамна, што хоць скрозь зямлю, на самае дно пекла, праваліся».

Хлопчык запомніў гэты выпадак на ўсё жыццё.

Словы, вынесеныя ў загаловак гэтага артыкула, маглі ўвайсці ва ўжытак сучаснай навукі са славенскай мовы. Тысячу гадоў славенскі народ жыў пад нацыянальным прыгнётам, але славенцы заўсёды імкнуліся адрозніваць родную мову, мову, якую трэба насіць у сэрцы, ад моў дзяржаў, у якіх яны знаходзіліся. Падобная сітуацыя ў XIX стагоддзі была і ў славакаў, кожны з якіх, жадаючы зрабіць кар'еру, павінен быў ведаць венгерскую мову. Знаходзячыся пад асманскім панаваннем, грэкі былі вымушаны карыстацца ва ўстановах турэцкай мовай, але дома яны размаўлялі толькі па-свойму. Выразы «мова сэрца» і «мова хлеба» маглі ўвайсці ў лінгвістыку і з польскай, літоўскай ці балгарскай моў, але яны вядомы з італьянскай, дзе выглядаюць так: lingua di cuore i lingua di pane.

Няпроста сцвярджала сябе ў грамадскім жыцці мова, якая сёння лічыцца адной з найпрыгажэйшых у свеце. Незалежная італьянская дзяржава ўтварылася толькі ў 1870 годзе, а да тае пары Італія не мела адзінага адміністрацыйнага і культурнага цэнтра, у розныя часы яе землі знаходзіліся пад уладай Іспаніі, Францыі і Аўстрыі. Італьянская літаратура ў параўнанні з суседнімі, правансальскай і французскай, запазнілася на чатыры стагоддзі, на пачатковай стадыі яна выкарыстоўвала французскую мову. Цэнтральная і паўночная часткі Італіі раней пастаянна варагавалі паміж сабой, тасканцы доўгі час прызнавалі ламбардцаў замежнікамі, а Дантэ не лічыў італьянцамі сардзінцаў. Тым не менш, паступова ў Італіі выспелі ўмовы для нацыянальна-дзяржаўнай кансалідацыі. Перыяд нацыянальна-вызваленчай барацьбы італьянскага народа ад аўстрыйскага панавання працягваўся з канца XVIII стагоддзя аж да 1870-х гадоў, у гэты час і ўзніклі паняцці lingua di cuore i lingua di pane.

Гісторыя самых розных народаў дае шматлікія прыклады адданасці «мовам сэрца».

Як вядома, універсітэты ў Расіі ўзніклі даволі позна ў параўнанні з іншымі краінамі. Калі, напрыклад, Парыжскі універсітэт быў заснаваны ў пачатку XIII стагоддзя, Пражскі — у сярэдзіне XIV стагоддзя, Віленскі — у XVI стагоддзі, то гісторыя Маскоўскага універсітэта пачынаецца толькі з 1755 года. На пачатковым этапе ў яго саставе працавала гімназія, якая складалася з трох «школ»: «рускай», «лацінскай» і «школы новых еўрапейскіх моў». «Руская школа» была пачатковай, у ёй вучылі толькі чытаць і пісаць, а ўсе асноўныя веды гімназісты атрымлівалі на лацінскай і нямецкай мовах. Адзін з заснавальнікаў універсітэта, фаварыт імператрыцы Елізаветы І Шувалаў лічыў, што пачынаць чытаць лекцыі студэнтам можна толькі пасля таго, як яны дасканала авалодаюць латынню. Універсітэцкая адміністрацыя ўвогуле непрыхільна ставілася да ідэі выкладаць на якіх-небудзь іншых мовах, акрамя лацінскай і нямецкай, у першыя гады пераважная большасць прафесараў былі замежнікамі, некаторыя з іх за доўгія гады работы так і не вывучылі рускай мовы.

Такое становішча не задавальняла маладых педагогаў, расійскіх патрыётаў, якія лічылі, што вывучаць навукі ва універсітэце трэба па-руску. Напрыклад, ініцыятару выкладання філасофіі на рускай мове М. Папоўскаму даводзілася даказваць, што «нет такой мысли, кою бы по-российски изъяснить было невозможно». Паступова стала стварацца руская навуковая тэрміналогія, пачалася падрыхтоўка арыгінальных расійскіх падручнікаў, сталі з'яўляцца навуковыя працы на рускай мове. З цягам часу руская мова для расійскіх студэнтаў і прафесараў перастала быць толькі «мовай сэрца», а і станавілася «мовай хлеба», пры дапамозе якой можна было пракарміцца. Імёны людзей, якія настойліва змагаліся за павышэнне статусу рускай мовы (іх дзейнасць стварала гарантыі захавання гэтай мовы), упісаны залатымі літарамі ў рускую гісторыю.

Адданасць «мове сэрца» можа быць «інстынктыўнай», неўсвядомленай — і ўсвядомленай, асэнсаванай. Многія неразвітыя плямёны трымаюцца сваіх моў, магчыма, не столькі з-за таго, што яны кіруюцца адпаведным светапоглядам, а больш з-за таго, што, будучы аднамоўнымі, яны падсвядома баяцца цяжкасцей, звязаных з інтэграцыяй у чужую культуру, у іншы лад жыцця. З другога боку, у некаторых выпадках адданасць родным мовам, жаданне іх адрадзіць, наадварот, абумоўліваюцца якраз высокім узроўнем развіцця народа. Пры гэтым бывае, што на першай стадыі ініцыятарамі адраджэння мовы выступаюць людзі, якія ведаюць яе дрэнна. Яркі прыклад свядомага, «штучнага» адраджэння мовы дэманструе чэшская гісторыя. Чэхі былі больш адукаваныя, чым многія іншыя народы Габсбургскай імперыі, чэшскія землі былі больш развітыя за іншыя тэрыторыі і ў эканамічных адносінах, у чэхаў была добра распрацавана нацыянальная ідэалогія — усе гэтыя фактары станоўча ўплывалі на адраджэнне чэшскай мовы. Таксама сучаснае адраджэнне каталонскай мовы ў Іспаніі, фрызскай у Нідэрландах ды, зрэшты, і беларускай у Беларусі ў значнай ступені сілкуецца не толькі з «натуральнага» права на захаванне гэтых моў у тых сферах, дзе яны ўжываюцца, але і з «галаўной» ідэі, што беларуская, каталонская і фрызская мовы павінны ўжывацца і там, дзе іх сёння няма, насуперак іх сённяшняму заніжанаму статусу. Не будучы «мовай хлеба», беларуская мова працягвае для большасці заставацца «мовай сэрца», і шмат хто не хацеў бы нават тэарэтычна дапусціць, што яна можа знікнуць. Адмовіцца ад сваёй нацыянальнай мовы для гэтых людзей было б раўназначна таму, калі б яны засталіся без сэрца. Ці паўнацэнным было б такое жыццё?

**P.S.** *Мы жывём у цывілізаванай краіне ў канцы другога тысячагоддзя, а не ў якой-небудзь буржуазнай Аўстрыі, апісанай у колішнім творы Прэжыхава Воранца. Гэта ў Аўстрыі настаўнікі маглі біць вучняў за ўжыванне славенскай мовы, у нас сёння падобнае немагчыма. Сёння выкарыстоўваюцца больш тонкія сродкі... Днямі даведаўся, што на маёй радзіме, у Чурылавіцкай сярэдняй школе Мінскага раёна, з ініцыятывы дырэктаркі маюць намер перавесці сёлетнія чацвёртыя беларускамоўныя класы на рускую мову навучання. Тэхналогія пераводу з «мовы сэрца» вучняў і іх бацькоў на «мову хлеба» школьнай адміністрацыяй вытрымана: адбыўся бацькоўскі сход, і тым, хто выказаў жаданне працягваць вучобу па-беларуску, прапанавалі перапісаць заявы. Тое, што пры гэтым будуць ламацца дзіцячыя душы, кіраўніцтва школы цікавіць мала. Галоўнае, каб была захавана «дэмакратычная» працэдура. Працэдура захавана. Будзем радавацца гэтаму?*

**Сяргей ЗАПРУДСКІ,**
**эксперт «Звязды» па пытаннях мовы.**

# БЕЛАРУСКАСЦЮ ПУЖАЮЦЬ НАРОД

Знявага беларускай мовы, усяго беларускага прымусілі мяне пакінуць кампанію былых сяброў. Вельмі ўжо хацелася ім, рускамоўным, выказаць сваю незадаволенасць беларускасцю наогул, быццам бы вінаватай у іх дрэнным жыцці. Усё гэта рабілася пры добрым веданні маёй беларускай нацыянальнасці і маёй адчувальнай у гэтым напрамку душы. Апроч таго, многія з прысутных не аднойчы карысталіся маімі важкімі дапамогамі, якія я рабіў зусім не думаючы аб нацыянальнай прыналежнасці кожнага. У АН Беларусі беларускасцю, напрыклад, проста пужаюць народ. Быццам бы яна перакрые краны навуковай выніковасці тэм. Хоць на самай справе практычна поўная бясплоднасць навукі пэўных накірункаў звязана ў Беларусі з празмернай яе прывязаннасцю да Расіі, да савецкага ваеннага комплексу, без уліку беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Непавага да адметна беларускага, погляд на яго з савецка-маскоўскай вышыні, як на штосьці ніжэйшае, правінцыяльна аджыўшае, адпаведныя палітычныя, эканамічныя і проста зняважальна-сілавыя прыёмы зрабілі сваю ганебную справу. Спасылкі на майскі рэферэндум 1995 года, дзе быццам бы беларусы самі адмовіліся ад беларускасці — не адпавядаюць рэчаіснасці.

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар.**

# «ВЫ ПЭЎНА НАСТАЎНІК?»

Першы раз гэта пытанне я пачуў з вуснаў жанчыны ў пакоі рэгістрацыі аднаго з не вельмі «прэстыжных» рэспубліканскіх санаторыяў, куды прыехаў па пуцёўцы на адпачынак. Адказваю ёй, што ў школе ніколі не працаваў, а заадно пытаюся, чаму яна палічыла, што я настаўнік. «Обычно на белорусском языке гаварат учителя», — пачуў у адказ. «А інжынеры, урачы, старшыні калгасаў, вясковыя пенсіянеры што — ніколі з вамі не загаворвалі па-беларуску? — цікаўлюся ў рэгістраткі. «Почти никогда», — адказала абыякава яна.

Запыт наконт майго настаўніцкага «статусу» ў першы дзень знаходжання ў санаторыі мне рабілі ажно сем чалавек! Урачы, медсёстры, санітаркі, сястра-гаспадыня, што выдавала бялізну, адпачываючыя, з якімі ўступаў у размовы. А гэта, павер, дарагі чытач, не магло не навесці на вельмі сумны роздум аб незайздросным стане роднай мовы — адной са старажытнейшых і багацейшых па слоўнаму запасу сярод славянскіх моў. Паглядзіце, які склаўся ўжо ў грамадстве стэрэатып масавага мыслення: на беларускай мове размаўляюць толькі настаўнікі, ну, яшчэ пісьменнікі, журналісты. І хоць адпачываючых у санаторыі было больш за дзвесце чалавек, старых і маладых, гараджан і вяскоўцаў, за час знаходжання там я сустрэў толькі аднаго, журналіста на пенсіі, з якім мог пагаварыць на роўных — па-беларуску.

Мы ўжо ведаем вытокі гэтай абыякавасці і непавагі да роднага слова — яны ў татальнай русіфікацыі, якая фарміравалася на працягу двух стагоддзяў і якая змяніла нават сам характар, натуру многіх людзей. Яны ўжо ўспрымаюць як належнае той факт, што ў краіне, якая абвясціла сябе незалежнай, са ста газет дзевяноста пяць — рускамоўныя, а ў бібліятэках 80—90 працэнтаў кніжнага фонду — таксама. Наша рэспубліканскае радыё пасля рэферэндуму ўсё болей «русее», бо вельмі ўжо часта ў перадачах толькі журналісты гавораць па-беларуску, а іх суразмоўцы, за рэдкім выключэннем, — па-руску. Падобная карціна назіраецца часта і на тэлебачанні. І працэс гэты, мне думаецца, будзе нарастаць, пакуль тры галоўныя асобы ў дзяржаве — прэзідэнт, прэм'ер-міністр і Старшыня Вярхоўнага Савета — не стануць размаўляць перад аўдыторыяй, у інтэрв'ю карэспандэнтам на беларускай мове. Тады і чыноўны люд ніжэйшай па рангу «вертыкалі» павернецца да яе тварам. А пакуль зрухаў не бачна. Пабывайце на сесіях абласных, раённых Саветаў, паслухайце выступаючых з трыбуны — усе як адзін гавораць па-руску або на звыклай «трасянцы».

У перадднавагоднім інтэрв'ю газеце «Літаратура і мастацтва» наш паважаны пісьменнік Іван Шамякін паведаў пра два свае пісьмы да Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў газету «Звязда», у якіх ён выказаў трывогу за лёс нашай мовы, патрабаваў заканадаўча падтрымаць яе. І даваў свой рэцэпт — так званы «бельгійскі варыянт». Сэнс яго — фактычная роўнасць дзвюх моў. Ён лічыць неабходным прыняць закон, па якім для заняцця дзяржаўных пасад ад сакратара сельсавета да міністра трэба дасканала ведаць абедзве мовы — беларускую і рускую. Прэтэндэнты здаюць экзамены на беларускай мове, а выпускныя экзамены ў школах і прыёмныя ў ВНУ праводзяцца на дзвюх мовах. І тады, маўляў, моўная праблема будзе знята раз і назаўсёды. Але штосьці мала верыцца ў жыццяздольнасць такога варыянта. І вось чаму. Скажам, чыноўнікі ўсіх рангаў здадуць такія экзамены. І што — пасля гэтага стануць у адзін дзень шчырымі прыхільнікамі беларускай мовы, загавораць на ёй з калегамі па працы, з наведвальнікамі, журналістамі? «Свежо предание, да верится с трудом». Пакуль уся дакументацыя ва ўстановах, на прадпрыемствах, у камерцыйных структурах і выкладанне ў ВНУ будуць весціся на рускай мове — як і дзесяць гадоў назад — ніякія экзамены карысці не прынясуць. Трэба дабіцца таго, каб наш парламент няўхільна дамагаўся выканання Закона аб мовах, сёння многімі забытага.

**Міхась ТЫЧЫНА,**
**ветэран вайны і працы.**

# А ХТО ТАМ ІДЗЕ Ў АГРОМНІСТАЙ ТАКОЙ ГРАМАДЗЕ?..

Пасля прайшоўшага летась рэферэндуму аб наданні роўных правоў беларускай і рускай мовам, усё перавярнулася дагары нагамі. На кожным кроку бачыш цяпер сапраўдны здзек з беларускай мовы. А яшчэ год-два назад усё было інакш. І мы ўсе сведкі гэтага. Школы і садкі, ліцэі і навучальныя ўстановы запрацавалі на роднай мове. У транспарце гучала мова продкаў. У магазінах цэннікі — па-беларуску, на тэлебачанні ўсё часцей і часцей размаўлялі па-беларуску...

Амаль усе перадачы тэлебачання цяпер вядуцца на рускай мове, альбо на нейкай жахлівай «трасянцы». Узнікае пытанне, чаму такі кепскі прыклад паказваюць журналісты, чаму падладжваюцца пад тых, з кім яны размаўляюць?

**Студэнты Беларускага педагагічнага універсітэта сумесна з прыхільнікамі беларускай мовы Стаўбцоўскага раёна: Хоміч, Зуб, Малашка, Вярбіцкі, Аляшкевіч, Навумчык, Крапіўная, Карпава, Сянько, Пракопчык, Грынько, Калечыц, Масюта, Балько, Сініцына, Іванова, Сідорчык, Крук.**

## ВЫНІКІ ТЭСТАВАЙ СЕСІІ MENSA ВЫСОКІЯ

**7-8 чэрвеня ў Мінску праходзіла інтэлектуальнае тэсціраванне, якое праводзіла Міжнародная арганізацыя людзей з высокім узроўнем інтэлекту MENSA (Оксфард, Вялікабрытанія) пры падтрымцы Джэм-банка.**

За два дні свой узровень інтэлекту змаглі вызначыць 405 чалавек ва ўзросце ад 13 да 55 гадоў. Удзельнікам сесіі прапаноўваліся графічныя тэсты, на рашэнне якіх давалася 40 хвілін. Як зазначыў выканаўчы дырэктар MENSA Эдвард Вінсент, высокі ўзровень інтэлекту паказала вялікая колькасць удзельнікаў тэсціравання, а наяўнасць ста чалавек з высокім узроўнем дае магчымасць фарміравання нацыянальнага прадстаўніцтва гэтай арганізацыі ў Беларусі. Найбольшая колькасць удзельнікаў сесіі — студэнты (65 працэнтаў), пераважна БДУ і радыётэхнічнага інстытута. Тэсціраваліся таксама прадстаўнікі камерцыйных структур, банкаў, іншых арганізацый. Вынікі тэсціравання паведамляюцца канфідэнцыяльна.

Тэставая сесія ў Беларусі праводзілася ўпершыню сярод краін СНД. У хуткім часе такое мерапрыемства адбудзецца ў Расіі. Восенню гэтага года беларусы змогуць пратэсціравацца паўторна.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## НЕ НА ТАГО НАТРАПІЎ

Не ўдалося паспяхова завяршыць сваю чорную справу рабочаму барысаўскага завода «Аўтагідраўзмацняльнік». А здарылася наступнае. У тры гадзіны ночы ён «палажыў вока» на «Жыгулі» і зняў з іх ветравое шкло, магнітафон і люстэрка задняга віду. Але нядоўга радаваўся грабежнік — гаспадар машыны затрымаў яго. Напэўна, зрабіць гэта было няцяжка — уладальнік з'яўляецца інструктарам рукапашнага бою ў адной з вайсковых часцей.

**БЕЛТА.**

***ВЫСТАЎКІ***

## ТЭХНІКА — НА ЛЮБЫ ГУСТ



Пераважная большасць тэхнікі і сельгасмашын, што выстраіліся на пляцоўках каля выставачнага павільёна на праспекце Машэрава, 14 беларускай сталіцы, ззяюць яшчэ свежай заводскай фарбай. І толькі два трактары «Мерседэс» ды кормаўборачны камбайн «Ягуар-690 СД», па ўсім бачна, ужо былі ў рабоце. Так і ёсць: сюды, на міжнародную сельскагаспадарчую выстаўку «Белагра-96», іх даставілі прама з палеткаў калгаса імя Суворава Пастаўскага раёна, дзе яны ўжо не першы год шчыруюць. Як растлумачыў пры сустрэчы старшыня калгаса Алег Валадзько, і тэхніка, і навейшая тэхналогія па апрацоўцы глебы і вырошчванню сельскагаспадарчых культур, што паступілі да іх у гаспадарку ад вядомай у Германіі фірмы «Гебрудэр Штоц», не мае аналагаў. Дастаткова зазначыць, што той жа трактар «Мерседэс», які па магутнасці ўдвая ўступае вядомаму «Кіраўцу», роўны яму па прадукцыйнасці, да таго ж утрая менш спажывае паліва.

— Пра кормаўборачны камбайн і казаць няма чаго, — гаворыць Алег Адольфавіч. — Без яго мы як без рук. Хіба змаглі б на айчынным «КСК-100», які, дарэчы, больш прастойвае, чым працуе, убраць паўтысячы гектараў кукурузы? Ды і паліва з'ядае ў некалькі разоў больш.

— Што так, то так, — зазначае дырэктар сельгаспрадпрыемства «Усход» Мінскага раёна Надзея Гарбузава, якая прысутнічае пры нашай сустрэчы. — Мы самі змаглі ацаніць вартасць нямецкай тэхнікі, што пастаўляе фірма «Гебрудэр Штоц». Нядаўна атрымалі ад іх новы збожжаўборачны камбайн, які адзін замяняе некалькі традыцыйных расійскіх.

Што ж, арганізатары сельскагаспадарчай вытворчасці ведаюць, што гавораць. Толькі калі ж перадавая замежная тэхніка і тэхналогія прыйдуць на нашы палеткі? Няўжо і далей будзем жыць па прынцыпу: хоць і дрэнь, але ж свая.

А ўвогуле выстаўка сельгасмашын даволі прадстаўнічая. Як зазначыў намеснік дырэктара Уладзімір Зарыўчацкі, у ёй удзельнічаюць прадстаўнікі 120 фірмаў з 17 краін. Прычым значнае месца займаюць экспанаты нямецкіх фірмаў. Ёсць таксама прадстаўнікі з Югаславіі, Ізраіля.

Нават беглае знаёмства з выстаўкай пераконвае ў тым, што карысць ад яе правядзення несумненная. Тут жа ля ўзораў машын і механізмаў завязваюцца дзелавыя гутаркі, падпісваюцца кантракты.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

**На здымках:** прадстаўнік нямецкай фірмы «Гебрудэр Штоц» Петэр Штоц і кіраўнік калгаса імя Суворава Пастаўскага раёна Алег Валадзько ля кормаўборачнага камбайна; агульны выгляд выстаўкі.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ
### у камерцыйных банках і афіцыйны курс, устаноўлены Нацыянальным банкам на 12 чэрвеня 1996 г. (па стану на 9.50)

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефон |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Абсалютбанк* | 13000 | 13100 | 8500 | 8540 | 2.55 | 2.57 | 63-60-80 |
| Белаграпрамбанк | 13050 | 13100 | 8550 | 8570 | 2.56 | 2.58 | 28-57-16 |
| дыл. прэмія (збор) | 1650 | 1900 | 1050 | 1230 | 0.04 | 0.32 | |
| Белбізнесбанк (гал. апер. упр.) | 13100 | 13100 | 8500 | 8500 | 2.60 | 2.60 | 769-531 |
| дыл. прэмія (збор) | 1700 | 1900 | 1100 | 1300 | 0.2 | 0.4 | |
| Белбізнесбанк (гар. дыр.) | 13000 | 13100 | 8500 | 8600 | 2.57 | 2,58 | 271-906 |
| дыл. прэмія (збор) | 1600 | 1900 | 1100 | 1200 | 0.13 | 0.32 | 067 |
| Белзнешэканомбанк | 13100 | 13100 | 8560 | 8560 | 2.58 | 2.58 | 267-022 |
| дыл. прэмія (збор) | 13% | 15% | 13% | 15% | 13% | 15% | |
| ФК «Вераніка»* | 13090 | 13100 | 8500 | 8550 | 2.50 | 2.58 | 531-504 |
| (за расійскія рублі) | 5050 | 5240 | 3300 | 3400 | | | |
| Галоўнае ўпраўленне НБ па г. Мінску і Мінскай вобл. | 13100 | - | 8543 | - | 2.57 | - | 26-64-41 |
| дыл. прэмія (збор) | 1900 | - | 1257 | - | 0.43 | - | |
| Троіцкае аддз. ГУ НБ па г. Мінску і Мінскай вобласці | 13100 | - | 8543 | - | 2.57 | - | 68-67-74 |
| дыл. прэмія (збор) | 1900 | - | 1257 | - | 0.43 | - | |
| Інфабанк | 13050 | 13100 | 8500 | 8570 | 2.55 | 2.58 | 50-43-93 |
| Банк «INKO» | 13090 | 13100 | 8580 | 8650 | 2.62 | 2.63 | 23-80-20 |
| (за расійскія рублі) | 5060 | 5300 | | | | | |
| Мінскі транзітны банк* | 13050 | 13100 | 8500 | 8540 | 2.50 | 2.57 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк» | 13090 | 13100 | 8550 | 8580 | 2.55 | 2.58 | 372-825 |
| Ф-л Мосбізнесбанка | 13050 | 13100 | 8400 | 8500 | 2.50 | 2.59 | 306-825 |
| Народны банк | 13080 | 13100 | 8560 | 8580 | 2.53 | 2.58 | 238-610 |
| Наваком | 13070 | 13100 | 8520 | 8540 | 2.55 | 2.57 | 603-402 |
| «Алімп» | 13000 | 13100 | 8300 | 8550 | 2.53 | 2.57 | 589-649 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 13050 | 13100 | 8510 | 8540 | 2.56 | 2.57 | 291-646, 067 |
| Ф-л № 2 АКБ «Алімп» | 13090 | 13100 | 8510 | 8560 | 2.56 | 2.57 | 275-648 |
| Пріорбанк | 13090 | 13100 | 8400 | 8600 | 2.55 | 2.59 | 455-721 |
| дыл. прэмія (збор) | 1810 | 1900 | 1200 | 1300 | 0.15 | 0.31 | |
| РРБ | 13050 | 13100 | 8450 | 8600 | 2.50 | 2.60 | 355-443 |
| «ФФФ»*13080 | 13100 | 8500 | 8550 | 2.55 | 2.58 | 621-601 | |
| Магазін «Панарама» фірмы «Энергія ГмбХ» | 13100 | 13100 | 8570 | 8570 | 2.60 | 2.60 | 26-56-12 |
| **Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў)** | 13100 | | 8543.66 | | 2.57 | | |
| **Цэнтрабанк Расіі** | 5051 | | 3295.06 | | 100 бел. р. 30.50 | | |

**Аперацыя з валютай вышэй за 1000$ праводзіцца на дагаворных умовах.*

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы Галаўнога ўпраўлення банка могуць нязначна адрозніваецца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах.*

*Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Інфармацыя прадастаўлена агенцтвам Граўцова.**




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

***ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ***

## ПЕРШЫ ТУР ЗГУЛЯНЫ: ЯСНАСЦІ НЯМА

Учора на першынстве Еўропы па футболу быў дзень адпачынку і каманды маглі ўжо падвесці пэўныя вынікі сваёй работы. Як і чакалася, найбольш выніковымі аказаліся матчы ў групе «С», дзе лідэры еўрапейскага футбола — каманды Германіі і Італіі абыгралі чэхаў і расіян — адпаведна 2:0 і 2:1.

У групе «В», як відаць, на вядучую ролю будзе прэтэндаваць зборная Францыі, якая з лікам 1:0 перамагла румынаў. Іх сапернікі — балгары і іспанцы — разышліся з мірам — 1:1.

Такія ж вынікі былі паказаны ў групе «Д». Зборная Харватыі змагла толькі пад канец матча забіць пераможны гол туркам. Вынік сустрэчы — 1:0, а датчане і партугальцы завяршылі матч унічыю — 1:1.

Пакуль найбольш міралюбівая абстаноўка ў групе «А». Гаспадары чэмпіянату — англічане звялі ўнічыю матч адкрыцця са швейцарцамі — 1:1, а ў паядынку зборных Галандыі і Шатландыі лік так і не быў адкрыты.

Па выніках першага круга яшчэ рана рабіць нейкія высновы. Большасць прэтэндэнтаў на выхад у чвэрцьфінал вызначыцца пасля другога тура, матчы якога пройдуць у наступныя дні:

**Група «А»**
Швейцарыя — Галандыя — 13.06.96 г.
Шатландыя — Англія — 15.06.96 г.

**Група «В»**
Балгарыя — Румынія — 13.06.96 г.
Францыя — Іспанія — 15.06.96 г.

**Група «С»**
Чэхія — Італія — 14.06.96 г.
Расія — Германія — 16.06.96 г.

**Група «Д»**
Партугалія — Турцыя — 14.06.96 г.
Харватыя — Данія — 16.06.96 г.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**



**СЁННЯ**

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск — | 4.37 | 21.41 | 17.04 |
| Віцебск — | 4.19 | 21.39 | 17.20 |
| Магілёў — | 4.27 | 21.30 | 17.03 |
| Гомель — | 4.32 | 21.19 | 16.47 |
| Гродна — | 4.54 | 21.55 | 17.01 |
| Брэст — | 5.04 | 21.46 | 16.42 |

**МЕСЯЦ**

Апошняя квадра 8 чэрвеня

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Ерма, Філасофа
К. Найсв. Сэрца Езуса, Міхала Казаля, Эльвіры

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Мінску, Гродне, Віцебску — 18—20, Брэсце — 19—21, Магілёве — 20—22, Гомелі — 22—24 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак: 14-га — месцамі, 15-га па поўначы пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература 14-га ўначы — 5—10, удзень 15—20; 15-га ўначы — 3—8, па паўднёваму захаду на глебе замаразкі да 0—мінус 2, удзень — 13—18 градусаў цяпла.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 13 ЧЭРВЕНЯ

Надвор'е будзе вызначацца ўначы франтальным раздзелам, удзень праходжаннем антыцыклону, што прывядзе да паніжэння тэмпературы і росту ўтрымання кіслароду ў паветры. У такіх умовах магчыма пагаршэнне самаадчування ў метэазалежных хворых, схільных да спастычных рэакцый (гіпертанія, стэнакардыя, жоўцекамянёвая хвароба, бранхіяльная астма).

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца панізіць фізічную актыўнасць, прытрымлівацца дыеты, прымаць заспакаяльныя і сасударасшыральныя лекавыя прэпараты.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

**ШАНОЎНЫ ЧЫТАЧ! ЛІЧАНЫЯ ДНІ, НАВАТ ГАДЗІНЫ ЗАСТАЛІСЯ ДА ЗАВЯРШЭННЯ ПАДПІСКІ НА «ЗВЯЗДУ» НА ДРУГОЕ ПАЎГОДДЗЕ ГЭТАГА ГОДА.**
*Нагадваем: падпісная цана для індывідуальных падпісчыкаў складае на паўгода — 81.600 рублёў, на тры месяцы — 40.800, на месяц — 13.600.*
**ХТО ЯШЧЭ НЕ ПАДПІСАЎСЯ — ПАСПЯШАЙЦЕСЯ, КАЛІ ЛАСКА!**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63850 (індэкс выдання)

ЗВЯЗДА

Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар

на газету 63850 (індэкс выдання)

ЗВЯЗДА

Кошт: падпіскі ______ руб.; пераадрасоўкі ______ руб.

Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

# УМОВЫ, ТЭРМІНЫ ЗАХОЎВАННЯ АСАБЛІВА ХУТКАПСАВАЛЬНЫХ ПРАДУКТАЎ

Да асабліва хуткапсавальных прадуктаў належаць прадукты, якія не падлягаюць захоўванню без холаду, а максімальны тэрмін захоўвання пры тэмпературы не вышэй +6°С складае ад 6 да 72 гадзін у залежнасці ад віду прадуктаў. Гэта мясныя, малочныя, рыбныя прадукты, агародніна, кандытарскія вырабы і інш. Пры парушэнні ўмоў і тэрмінаў захоўвання ў іх могуць размножыцца мікраарганізмы, што выклікаюць псаванне прадуктаў і здольны выклікаць харчовыя бактэрыяльныя атручэнні і вострыя кішэчныя захворванні.

| Назвы | Тэрмін захоўвання ў гадзінах | Тэмпература захоўвання, °С |
|---|---|---|
| **Мясная прадукцыя:** | | |
| Паўфабрыкаты з ялавічыны, свініны, бараніны: | | |
| Мяса фасаванае (ад 0,25 да 1,0 кг) | 36 | ад +2 да +6° |
| Буйнакускавыя | 48 | ад +2 да +6° |
| Дробнакускавыя (паджарка, гуляш, ялавічына для тушэння і інш.) | 24 | ад +2 да +6° |
| Шашлык марынаваны (паўфабрыкат) | 24 | ад +2 да +6° |
| Фаршы мясныя, якія выпускаюцца мясаперапрацоўчымі прадпрыемствамі: | | |
| фарш натуральны | 12 | ад +2 да +6° |
| фарш мясны замарожаны | 18 | ад +2 да +6° |
| фарш мясны, вырабляемы прадпрыемствамі гандлю і грамадскага харчавання | 6 | ад +2 да +6° |
| Пельмені, фрыкадэлькі мясныя, замарожаныя | 48 | не вышэй -5° |
| **Паўфабрыкаты з птушкі і трусоў:** | | |
| Мяса ахаладжанае, фасаванае | 48 | ад +2 да +6° |
| Мяса замарожанае | 72 | -»- |
| Паўфабрыкаты з мяса птушкі | 48 | -»- |
| Наборы для халадца, рагу, супавы | 12 | -»- |
| Паўфабрыкаты сечаныя з мяса птушкі (катлеты курыныя, з індычкі і г. д.) | 12 | -»- |
| **Кулінарныя вырабы з ялавічыны, свініны:** | | |
| Субпрадукты мясныя вараныя (язык, вымя, сэрца, ныркі, мазгі) | 18 | ад +2 да +6° |
| Печань смажаная | 24 | -»- |
| Халадзец мясны і мяса заліўное | 12 | -»- |
| Паштэты з мяса, печані і птушкі, выпрацоўваемыя | | |
| прамысловымі прадпрыемствамі | 24 | ад 0 да +2° |
| прадпрыемствамі грамадскага харчавання | 6 | ад +2 да +6° |
| **Кулінарныя вырабы з птушкі:** | | |
| Катлеты з мяса птушкі | 12 | -»- |
| Яйкі вараныя | 24 | -»- |
| Тушкі качак і куранят запечаныя | 48 | -»- |
| Тушкі птушкі вэнджаныя, вэнджана-запечаныя і вэнджана-вараныя | 72 | -»- |
| **Каўбасы і каўбасныя вырабы:** | | |
| Халадзец у абалонцы | 36 | -»- |
| **Каўбасы вараныя:** | | |
| вышэйшага гатунку | 72 | -»- |
| першага і другога гатунку | 48 | ад +2 да +6° |
| трэцяга гатунку | 24 | -»- |
| Сасіскі і сардэлькі вышэйшага, першага і другога гатункаў | 48 | -»- |
| **Каўбасы ліверныя:** | | |
| вышэйшага і першага гатункаў | 48 | |
| другога гатунку | 24 | |
| трэцяга гатунку | 12 | |
| **Каўбасы крывяныя:** | | |
| першага і другога гатункаў | 24 | |
| вэнджаная першага гатунку | 48 | |
| Вяндліна | 72 | |
| Каўбасы вараныя вышэйшага гатунку з птушкі | 72 | |
| Каўбасы вараныя з птушкі першага гатунку, сасіскі | 48 | |
| **Рыбная прадукцыя і марапрадукты** | | |
| **Паўфабрыкаты:** | | |
| Рыба ўсіх назваў ахаладжаная | 48 | ад 0 да -2° |
| Рыба і рыбныя тавары ўсіх назваў марожаныя | 24 | -»- |
| Рыба спецыяльнай раздзелкі незамарожаная | 24 | ад -2 да +2° |
| **Кулінарныя вырабы** | | |
| Рыба ўсіх назваў смажаная | 36 | ад +2 да +6° |
| Рыба ўсіх назваў печаная | 48 | -»- |
| Рыба ўсіх назваў вараная | 24 | -»- |
| Рыба фаршыраваная | 24 | -»- |
| Катлеты з рыбы ўсіх назваў смажаныя | 12 | -»- |
| Ракі і крэветкі вараныя | 12 | -»- |
| Крабавыя палачкі | 48 | -»- |
| Масла рыбнае і ікорнае ўсіх назваў | 24 | -»- |
| Рыба заліўная | 24 | ад -2 да +2° |
| **Малочныя і кісламалочныя прадукты** | | |
| Малако пастэрызаванае, вяршкі | 36 | ад +2 да +6° |
| Кефір | 36 | -»- |
| Сыракваша | 24 | -»- |
| Смятана | 72 | -»- |
| Тварог тлусты і абястлушчаны | 36 | -»- |
| сялянскі 5-працэнтны | 24 | -»- |
| **Тварожныя паўфабрыкаты:** | | |
| сырнікі, запяканкі | 24 | ад +2 да+6° |
| варэнікі з тварагом | 24 | не вышэй -5° |
| Сыркова-тварожныя вырабы | 36 | ад 0 да +2° |
| Сыр дамашні | 36 | ад +2 да +6° |
| **Агародніна:** | | |
| **Паўфабрыкаты:** | | |
| Бульба сырая пачышчаная | 48 | ад +2 да +6 |
| Капуста белакачанная свежая зачышчаная | 12 | -»- |
| Морква, буракі, цыбуля рэпчатая сырыя пачышчаныя | 24 | -»- |
| Радыс, рэдзька апрацаваныя нарэзаныя | 12 | -»- |
| **Паўфабрыкаты, прайшоўшыя цеплавую апрацоўку:** | | |
| **Соусы канцэнтраваныя:** | | |
| чырвоны асноўны і таматны | 72 | -»- |
| Галубцы-паўфабрыкаты | 12 | |
| **Агародніна вараная пачышчаная:** | | |
| морква | 24 | -»- |
| буракі | 24 | |
| бульба | 18 | |
| Салаты (мясны, сталічны, рыбны) у незапраўленым выглядзе | 12 | |
| Салаты, вінегрэты ўсіх назваў у незапраўленым выглядзе, прыгатаваныя ў сталовых | 6 | ад +2 да +6° |
| Агародніна вараная непачышчаная | 6 | -»- |
| **Мучныя прадукты** | | |
| **Паўфабрыкаты:** | | |
| Цеста дražджавое | 9 | -»- |
| Цеста слаёнае прэснае | 24 | -»- |
| Цеста пясочнае | 36 | -»- |
| Цеста для варэнікаў лянівых | 24 | -»- |
| Блінчыкавыя загатоўкі | 24 | -»- |
| Блінчыкі з мясным, тварожным фаршам | 12 | -»- |
| Блінчыкі з джэмам і павідлам | 18 | -»- |
| **Мучныя кандытарскія вырабы, салодкія стравы, напоі** | | |
| **Тарты і піражныя:** | | |
| без аздобы крэмам, з бялкова-ўзбіўным крэмам ці з фруктовай аздобай | 72 | ад +2 да +6° |
| з вяршковым крэмам, у тым ліку піражныя «Бульба» | 36° | -»- |
| з заварным крэмам, з крэмам з узбітых вяршкоў | 6 | -»- |
| Жэле, мусы | 24 | -»- |
| Крэмы вяршковыя і тварожна-фруктовыя | 24 | ад +2 да +6° |
| Вяршкі ўзбітыя | 6 | -»- |
| Торт тварожны | 24 | -»- |
| Квас хлебны непастэрызаваны | 48 | -»- |
| Безалкагольныя негазіраваныя напіткі, выпрацоўваемыя прамысловасцю | 48 | -»- |

## ДА ВЕДАМА ПАКУПНІКОЎ

Санітарныя патрабаванні да водпуску харчовых прадуктаў

- Пры адпусканні пакупнікам нефасаваных харчовых прадуктаў прадавец абавязаны карыстацца шчыпцамі, лапаткамі, саўкамі, чарпакамі, лыжкамі і інш.
- Забараняецца ўзважванне харчовых прадуктаў непасрэдна на вагах, без абгортачнай паперы і іншых упаковачных матэрыялаў. Нельга адпускаць харчовыя прадукты ў брудную тару пакупніка і друкаваную макулатуру.
- Забараняецца адпускаць пакупнікам харчовыя прадукты, якія выпадкова ўпалі на падлогу ці забруджаны іншым шляхам (санітарны брак).
- Для адбору і вызначэння свежасці хлеба і хлебабулачных вырабаў у магазінах самаабслугоўвання павінны быць спецыяльныя відэльцы, шчыпцы — не менш як 2 штукі на адзін пагонны метр гандлёвага абсталявання. Забараняецца нарэзка хлеба падсобнымі рабочымі і пакупнікамі.
- Нарэзка тортаў і продаж іх па частках дапускаецца толькі ў кафетэрыях, пры ўмове спажывання вырабаў пакупнікамі на месцы.
- Пры адпусканні вадкіх малакапрадуктаў (малако, смятана і інш.) забараняецца трымаць посуд пакупніка над адкрытым бідонам, флягай, бочкай і г.д., а таксама зліваць прадукты назад з пасудзіны пакупніка ў агульную тару.
- Забараняецца пакідаць гандлёвы інвентар (лыжкі, лапаткі і інш.) у тары з малаком, тварагом і смятанай.
- Забараняецца рэалізацыя марожанага, якое растала і ў другі раз замарожана.
- Не дапускаюцца да рэалізацыі кансервы, якія маюць дэфекты: бамбаж, падцёкі, прабоіны і скразныя трэшчыны, дэфармаваныя, з прыметамі мікрабіялагічнага псавання прадуктаў (плесня, браджэнне і інш.).
- Бутэлькі з напоямі і вадой, шкляныя балоны з сокамі перад іх ускрыццём павінны абціраца звонку вільготнай чыстай тканінай. Ускрыццё шклатары робіцца на стале перад адпусканнем спажыўцу.
- Чысты посуд для адпускання напояў захоўваецца на латках у перакуленым выглядзе. Перад напаўненнем шклянкі паўторна прамываюцца.
- Забараняецца рэалізацыя загнілай, сапсаванай агародніны і садавіны.



## НЕМЕТРЫЧНЫЯ АДЗІНКІ ВЫМЯРЭННЯ

**Даўжыня**

вярста = 500 сажням = 1,0668 км
сажань = 3 аршынам = 7 футам = 2,1336 м
аршын = 16 вяршкам = 28 цалям = 0,7112 м
вяршок = 1 3/4 цалі = 44,45 мм
фут = 12 цалям = 0,3048 м
цаля = 10 лініям = 25,4 мм
лінія = 10 кропкам = 2,54 мм
кропка = 1/1200 = 254 мкм

**Плошча**

кв. вярста = 250 000 кв. сажням = 1,1381 кв. км
дзесяціна = 2400 кв. сажням = 10,9254 кв. м
кв. сажань = 9 кв. аршынам = 49 кв. футам = 4,5522 кв. м
кв. аршын = 256 кв. вяршкам = 784 кв. цалям = 0,5058 кв. м
кв. вяршок = 19,7580 кв. см
кв. фут = 144 кв. цалям = 0,0929 кв. м
кв. цаля = 100 кв. лініям = 6,4516 кв. см

**Аб'ём**

куб. сажань = 27 куб. аршынам = 343 куб. футам = 9,7127 куб. м
куб. аршын = 4096 куб. вяршкам = 21952 куб. цалям = 359,7278 куб. дм
куб. вяршок = 5,3594 куб. цалі = 87,8244 куб. см
куб. фут. = 1728 куб. цалям = 28,3168 куб. дм
куб. цаля = 1000 куб. ліній = 16,3871 куб. см

**Умяшчальнасць (для сыпучых рэчываў)**

чвэрць = 2 асьмінам = 8 чацверыкам = 2,0991 гл
асьміна = 4 чацверыкам = 1,0495 гл
чацвярык = 8 гарнцам = 26,239 л
гарнец = 1/8 чацверыка = 3,2798 л

**Умяшчальнасць (для вадкіх рэчываў)**

бочка = 40 вёдрам = 491,96 л
вядро = 4 чвэрцям = 10 штофам = 12,299 л
чвэрць = 2,5 штофа = 5 гарэлачным бутэлькам = 3,0748 л
штоф (кубак) = 2 гарэлачным бутэлькам = 10 чаркам = 1,2299 л
вінная бутэлька = 1/16 вядра = 0,7687 л
гарэлачная ці піўная бутэлька = 1/20 вядра = 5 чаркам = 0,615 л
чарка = 1/100 вядра = 2 чарачкам = 122,99 мл
чарачка = 1/200 вядра = 61,5 мл

**Маса**

беркавец = 10 пудам = 163805 кг
пуд = 40 фунтам = 16,3805 кг
фунт = 32 лотам = 96 залатнікам = 409,51241 г
лот = 3 залатнікам = 12,797 г
залатнік = 96 долям = 4,266 г
доля = 44,43 мг

## У РЭСТАРАНЕ МУЗЫКА ГУЧАЛА...

**Пражыўшы дзесяцігоддзі за «жалезнай заслонай», наш народ нарэшце пакрысе пачынае далучацца да сапраўднага цывілізаванага абслугоўвання ў крамах, рознага кшталту салонах і г. д. На жаль, гэта ўсё роўна іншым разам не гарантуе ад абыякавасці да наведвальнікаў.**

Так, загадам Міністэрства гандлю з ТАА «Рэстаран «Каменный цветок» -- месца адпачынку, што не першы год працуе ў Мінску, -- знята вышэйшая катэгорыя. Матывацыя -- невыкананне патрабаванняў Палажэння аб парадку аднясення рэстаранаў, кафэ, бараў і іншых прадпрыемстваў грамадскага харчавання да прадпрыемстваў адпаведнай катэгорыі па ўзроўню абслугоўвання спажыўцоў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**







*Лявон БАРШЧЭЎСКІ:*

# «ДА ВЯРТАННЯ З. ПАЗНЯКА ФРОНТАМ БУДУЦЬ КІРАВАЦЬ ІНШЫЯ, АДСЮЛЬ, А НЕ З-ЗА МЯЖЫ»

***У мінулую суботу ў Беларускага народнага фронту з'явіўся новы лідэр, ці, прынамсі, выконваючы яго абавязкі. Сойм БНФ фармальна зацвердзіў гэтыя паўнамоцтвы за намеснікам старшыні БНФ Лявонам Баршчэўскім. Адбылося гэта па прычыне адсутнасці Зянона Пазняка ў Беларусі, які па-ранейшаму знаходзіцца ў Польшчы.***

***Якія падыходы, якая тактыка будзе рэалізоўвацца цяпер Беларускім народным фронтам пад кіраўніцтвам новага лідэра, асабліва ўлічваючы сённяшнюю няпростую для фронту і для ўсёй краіны грамадска-палітычную сітуацыю ў Беларусі? Аб гэтым карэспандэнт «Звязды» размаўляе з Лявонам БАРШЧЭЎСКІМ.***

**— Спадар Лявон, што, на ваш погляд, было галоўным, найбольш грамадска значным на мінулым пасяджэнні Сойма БНФ?**

— Па-першае, абмяркоўвалася пытанне склікання канферэнцыі БНФ, якая планавалася на гэтае лета, але паколькі сітуацыя значна змянілася, то прагучалі прапановы адкласці яе на восень. Канферэнцыя трэба не для таго, каб уносіць нейкія змены ў праграму, а каб вызначыць тактычныя спосабы дзейнасці ва ўмовах неправавых і часам экстрэмальных. Гэта трэба было б спакойна абгаварыць, абмеркаваць усе набалелыя праблемы без прысутнасці журналістаў. Рашэння аб закрытасці гэтай канферэнцыі пакуль няма, але я не выключаю такога.

Па-другое, мы мусім па-ранейшаму займацца лёсам беларускай школы. Мы дапамагаем ТБМ, ТБШ не даць знішчыць беларускае школьніцтва, у прыватнасці перад новым навучальным годам, асабліва ў гарадах... Мы ўпэўнены, што трэба перажыць гэты цяжкі перыяд, пазней бацькі самі зразумеюць патрэбу ў роднай мове, пры ўмове, калі беларуская школа выжыве. Мы ж павінны рабіць упор на прэстыжнасць беларускіх школ і класаў.

А трэцяе было пытанне кадравае. Яшчэ рашэннем вераснёўскага Сойма старшыні БНФ былі дадзены правы ў выпадку экстрэмальных умоў, калі ён не зможа ў поўным аб'ёме ажыццяўляць свае функцыі, перадаць іх выкананне іншаму. Раней былі падрыхтаваны адпаведныя пісьмы, якія павінны быць у адпаведнай сітуацыі ўскрыты. Мы атрымалі перад пасяджэннем ад З. Пазняка прапанову ўскрыць першае пісьмо. Там было названа маё прозвішча. Сойм зацвердзіў гэтае рашэнне, і я такім чынам пачаў выконваць абавязкі старшыні. Хаця раней у нейкай ступені я фактычна на працягу 2-3 месяцаў іх ужо выконваў. Я хацеў бы падкрэсліць, што апошнім часам у нас склалася добрая традыцыя, асабліва пасля чацвёртага з'езда, што ўсе больш-менш істотныя рашэнні ў нас прымаюцца калектыўна. Прычым выявілася, што кіруючая структура — старшыня і пяць намеснікаў аказалася вельмі эфектыўнай. Мы будзем прадаўжаць гэтую традыцыю, я ж буду толькі каардынаваць гэту работу.

**— Наколькі ў такім разе Пазняк аддаляецца ад кіраўніцтва фронтам і які ўвогуле яго далейшы лёс?**

— У Беларусі кіраўніцтва цалкам будуць ажыццяўляць тыя, хто застаўся тут. Што да дзейнасці за мяжой, то Пазняк там захоўвае свае паўнамоцтвы, мае права прадстаўляць Народны фронт. А пасля вяртання, а яно адбудзецца, Сойм прыме рашэнне, як быць далей: вярнуць яму паўнамоцтвы ў поўным аб'ёме ці прапанаваць які іншы варыянт. Але да вяртання Пазняка, трэба падкрэсліць, фронтам будуць кіраваць іншыя, адсюль, а не з-за мяжы. Мы маем сувязь з З. Пазняком, мы прыслухоўваемся да яго парад і будзем, вядома, улічваць іх у сваёй рабоце.

**— Што вы можаце сказаць пра магчымыя ўмовы і тэрміны вяртання З. Пазняка?**

— Сёння ўмоў для вяртання няма, гэта я кажу адназначна. Наша інфармацыя з праваахоўных органаў пацвярджае гэта. Мы спадзяёмся, што калі пачнецца выбарчая кампанія, у яго будзе статус недатыкальнасці, як кандыдата ў дэпутаты.

**— Ці актуальнае на сёння азначэнне гэтага знаходжання Пазняка за мяжой як вымушанай эміграцыі?**

— Эміграцыя — гэта жыццё на чужыне, калі чалавек не можа дзейнічаць у інтарэсах нейкіх арганізацый, а жыве сам па сабе. Таму я слова «эміграцыя» не ўжываў бы — гэта вымушанае знаходжанне Пазняка і Навумчыка па-за межамі краіны, дзе яны па-ранейшаму займаюцца актыўнай палітычнай дзейнасцю, вядуць інфармацыйную работу і вельмі нам гэтым дапамагаюць, таму што любыя факты парушэння законаў тут адразу становяцца вядомы там і разыходзяцца далей па ўсім свеце.

**— Вы гаворыце аб магчымым удзеле Пазняка ў выбарах, а ці не мяркуеце вы, што ўдзел фронту ў восеньскіх выбарах можа быць ускладнены? Вы ж ужо атрымалі два папярэджанні.**

— Партыя БНФ атрымала пакуль толькі адно, а менавіта яна бярэ ўдзел у выбарах. Але прынцыповых праблем тут не можа быць, бо сабраць подпісы за любога з кандыдатаў мы зможам без праблем, а ў лістоўках любы кандыдат зможа напісаць, што ён адносіцца ці быў у БНФ. Мы не баімся фармальнага скасавання рэгістрацыі. Забараніць БНФ немагчыма, бо для гэтага трэба фізічна знішчыць людзей, якія ў фронце. А пакуль яны ёсць, існуе і фронт.

**— А як вы ацанілі апошнія папярэджанні фронту з Мінюста?**

— Мы зараз рыхтуем іск у суд, таму што лічым, што яны не маюць ніякай юрыдычнай падставы, іх аргументацыя часам выглядае проста смехатворнай, таму што яны грунтуюцца не на законах, а на домыслах, на нейкіх меркаваннях. Там напісана, у прыватнасці: «З верагоднасцю даказана...» Што гэта за юрыдычны тэрмін такі, на падставе якога выносіцца рашэнне? Такім чынам, мы не згодны з папярэджаннем, не згодны з прэтэнзіямі наконт выкарыстання сімволікі ў штаб-кватэры, гэта ні ў якім заканадаўчым акце не забаронена, я ўжо не кажу, што ў нас права на сімволіку запісана ў статуце, зацверджаным тым жа Мінюстам. Па-другое, тая аргументацыя, што сябры БНФ, ці нават кіраўнікі ўдзельнічалі ў нейкіх акцыях, а гэта значыць, што дзейнічала там і партыя БНФ, беспадстаўная: яны ўдзельнічалі як грамадзяне. Народны фронт афіцыйна не звяртаўся з заклікам удзельнічаць у гэтых акцыях, а тым больш партыя БНФ. Гэта быў унутраны выбар кожнага грамадзяніна, нікому загадаў не давалі. Гэта ўсё выглядае менавіта як палітычная справа, а не юрыдычная.

**— Відавочна, што БНФ арганізацыйна не будзе ўдзельнічаць і ў антыфашысцкай акцыі 22 чэрвеня, але, тым не менш, што, на вашу думку, чакае нас у гэты дзень?**

— Ніякага рашэння ў нас не прымалася. Магу толькі сказаць, што ідэя гэтая саспела ўнізе, нават, можа, і не ў сяброў фронту, мы яе сур'ёзна абмяркоўвалі і хацелі б, каб гэта не была чыста фронтаўская акцыя. Але мы ўсведамляем і небяспеку і будзем абмяркоўваць любыя варыянты. А пакуль паглядзім, як улады адрэагуюць на пададзеную двума грамадзянамі заяўку. І тады мы будзем бачыць, як нам дзейнічаць або не дзейнічаць. Мы настроены на тое, каб гэта не прывяло да непажаданага абвастрэння. І ніхто не можа абвінаваціць нас у адваротным, у тым ліку і па папярэдніх акцыях. Гэтая акцыя, як я яе разумею, — таксама супраць парушэння правоў асобы, і думаю, што гэтая платформа здольна аб'яднаць не толькі БНФ.

**— Ці згодны вы з такім тлумачэннем прычыны сёлетніх веснавых масавых акцый пратэсту: фронт не здолеў стварыць парламенцкую апазіцыю і вырашыў сканцэнтравацца на пазапарламенцкіх метадах палітычнай дзейнасці?**

— Я думаю, што тут не трэба прыпісваць заслугі выключна фронту. Я тлумачу гэтыя падзеі тым, што падрастае пакаленне людзей, для якіх каштоўнасці, што важныя для фронту, важныя і патрэбныя і для іх. І калі гэтыя людзі выходзяць, то мы, маючы палітычны вопыт, імкнёмся дабіцца, каб гэта праходзіла ў арганізаваных формах і не выходзіла за межы закона. Я не пагадзіўся б з такім тэзісам, што фронт вывеў людзей. Яны самі выйшлі, яны многае разумеюць, яны бачаць, што робіцца. Пры гэтым фронт выкарыстоўвае свае арганізацыйныя магчымасці толькі для таго, каб гэтыя падзеі развіваліся ў адпаведнасці з законам, цывілізаванымі еўрапейскімі нормамі. З іншага боку, зразумела, фронтаўцы падзяляюць тыя памкненні моладзі, сёння ў нас разыходжанняў няма, мы разам. І я спадзяюся, што мы і далей не будзем адставаць ад моладзі. Яна ўжо расла ў іншых умовах, сённяшнія юнакі і дзяўчаты ўжо не былі ў камсамоле, яны ведаюць, што такое плюралізм, разумеюць, што не бывае ісціны ў апошняй інстанцыі. Новае пакаленне, якое падрастае цяпер, усяліла ў мяне надзею, што справа незалежнай, дэмакратычнай, еўрапейскай, цывілізаванай Беларусі не памрэ. Канчаткова яе здзейсняць вось яны.

**— А ці папаўняюць яны вашы структуры?**

— Безумоўна, хаця мы ніколі не ставілі такой мэты. Мы ставім мэту, каб людзі самаарганізоўваліся для абароны сваіх правоў, эканамічных, сацыяльных, палітычных. Галоўнае нам не свой імідж, не ўлада, галоўнае — Беларусь, той вобраз яе, які мы бачым. Мы за яе змагаемся і вельмі рады, што ў значнай ступені нашы каштоўнасці падзяляюць маладзейшыя пакаленні.

**— Ці прынялі вы ўжо рашэнне аб удзеле ў давыбарах у парламент?**

— Рашэнне аб удзеле ў выбарах было прынята раней, і мы дзейнічаем у яго рэчышчы, пакуль няма іншага. Менавіта таму на мінулым Сойме было вырашана сфарміраваць групу падтрымкі на выбарах для Зянона Пазняка.

**— Ці не мяркуеце вы, што на выбарах вам зноў перашкодзіць 50-працэнтная планка ўдзелу выбаршчыкаў?**

— Я хацеў бы яшчэ раз падкрэсліць, што ўсё-такі галоўнае для нас не ўлада, а дзяржава, якую мы ў ідэале бачым. І калі наш удзел у выбарах, агітацыя спрыяе набліжэнню да гэтага ідэалу, то гэта для нас найважнейшае. Што да шанцаў, то я лічу, што яны ў нас дастаткова высокія, калі не будзе залішніх амбіцый у палітыкаў, якія называюць сябе нашымі саюзнікамі. У нас ёсць кандыдаты, якія могуць выйграць у першым туры, што пройдзе па паніжанай планцы яўкі выбаршчыкаў. Натуральна, што паколькі мы ў парламенце сваёй фракцыі не маем, то мы будзем весці перамовы з улікам таго, што на тых выбарах мы зрабілі ўсё і часам ахвяравалі тымі ці іншымі сваімі кандыдатамі, каб дэмакраты ўвогуле мелі ў Вярхоўным Савеце сваё прадстаўніцтва. Цяпер мы будзем прасіць, каб нас зразумелі, што мы хочам мець сваё невялікае прадстаўніцтва ў парламенце. У гэтым зацікаўлены не толькі мы. Нават прадстаўнікі былой наменклатуры, нашы праціўнікі, былыя дэпутаты сцвярджалі мне, што вельмі дрэнна, што нас там няма, няма лакаматыва. Мы, вядома, там будзем у апазіцыі, бо бачна, што там няма канструктыўна-рашучай апазіцыі.

**— А ці адчуваеце вы цяпер плячо сваіх саюзнікаў?**

— Усе нашы дзеянні апошняга часу былі накіраваны на тое, каб нашых саюзнікаў, крый Божа, не пакрыўдзіць. Але мы вельмі жорстка крытыкуем іх па факту ратыфікацыі дагавора з Расіяй. Мы разлічвалі, саступаючы ім акругі, што яны менавіта гэтае галасаванне правядуць дастойна. Тым, якія знайшлі ў сабе мужнасць і прагаласавалі супраць, мы на будучых выбарах ніколі не будзем ствараць канкурэнцыі ў акругах, у нашых вачах яны не здрадзілі. Што датычыць астатніх, то будзем думаць.

**— Падагульняючы нашу размову, я хацеў бы запытаць, ці сапраўды, на ваш погляд, фронт застаецца на ранейшых пазіцыях раслумачальнай дэмакратычнай работы і адмаўляецца ад прапаноў радыкалізацыі, якія ўжо чуюцца?**

— Мы вітаем з'яўленне любых арганізацый, якія дзейнічаюць у межах закона, у тым ліку і больш радыкальных, чым мы. Мы ж ажыццяўляем сваю праграму, якая не з'яўляецца радыкальнай.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

**Твар вайны не жаночы. А ці можна сцвярджаць, што ён мае мужчынскія рысы? Вайна наогул катэгорыя нечалавечая, хаця пачынаюць яе не зоркі і вядуць не вятры: яна супраць усёй прыроды ўвогуле і супраць асобнага кожнага чалавека. Жанчына больш за ўсё жывое створана для міру і жыцця. Відаць, таму цяжэй за ўсіх на ўсіх войнах было менавіта ёй. Таму сёння самы моцны боль за мінулае і за будучыню — у яе сэрцы. Угледзьцеся ў твары гэтых жанчын — фотааб'ектыў спыніў імгненні такімі, якімі яны пагрозна паўсталі больш за паўстагоддзя таму. Побач са здымкамі з франтавых архіваў — сённяшняе фота ветэранаў мінулай вайны, былых медыцынскіх сясцёр, на чыю долю выпала трымаць зброю і ратаваць ад яе. Спалучаць дзве гэтыя мэты здольны толькі тыя, хто спазнаў сапраўдную любоў да Бацькаўшчыны і сапраўдную нянавісць да яе ворагаў. Часцей пытайцеся ў іх, што такое вайна. Неўзабаве, калі да нас зноў прыйдзе жалобная гадавіна пачатку Вялікай Айчыннай вайны, у залах Мінска зноў можна будзе ўбачыць выступленні гераінь нашага сённяшняга фотаздымка — удзельніц ансамбля ветэранаў «Баявыя сяброўкі». Калі вам пашчасціць пачуць, як разам спяваюць яны пра тыя далёкія гады, — вы зразумееце больш, чым тлумачаць аб вайне гісторыкі, палітыкі, даследчыкі. Вы яшчэ раз пераканаецеся, што памяць, імкненне не дапусціць новай бойні таксама прымушаюць нас усіх быць разам.**

*(Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА і з франтавых архіваў.)*

## ЛАЎКА АЎТААМАТАРА

# ЗАМЕНА ЛАНЦУГА Ў «ЖЫГУЛЯХ»

**Малюнак 1.** *Прыстасаванне для разлучэння ланцуга; 1 - скаба; 2 - цэнтруючая ўтулка; 3 - вінт-штурхач; 4 - рукаятка.*

**Малюнак 2.** *Схема злучэння ланцугоў для замены: 1 — зорачка размеркавальнага вала; 2 — новы ланцуг; 3 — стары ланцуг; 4 — зорачка каленвала; 5 - нацяжыцель.*

Трэба зняць корпус паветранага фільтра, адчапіць трос ад пускавойга ўстройства карбюратара, выкруціць свечкі запальвання, каб лягчэй было круціць каленчаты вал, зняць накрыўку размеркавальніка запальвання і накрыўку галоўкі блока. Круцячы каленчаты вал, сумясціць меткі на зорачцы размеркавальнага вала і яго корпусе, а таксама на шківе каленчатага вала і накрыўке механізма газаразмеркавання. Адзначыць становішча ротара (бегунка) размеркавальніка. Адпусціць гайку нацяжыцеля (ці зусім зняць яго).

Раз'яднаць новы і стары ланцугі, выпрасоўваючы палец, размешчаны ля меткі на зорачцы размеркавальнага вала. Для гэтага лепей за ўсё прымяніць прыстасаванне, якое паказана на малюнку 1.

Зняць правую (калі глядзець спераду) ветку старога ланцуга з зорачкі і злучыць яе пры дапамозе тэхналагічнага штыфта (куска меднага, латуннага ці алюмініевага дроту дыяметрам 3,5 мм). Пакласці свабодны канец новага ланцуга на зорачку размеркавальнага вала і зафіксаваць яе, надзеўшы гумавае кольца (адрэзак велакамеры) на зорачку па акружнасці. Пятлю ланцугоў, якая ўтварылася, вылажыць знадворку блока, як паказана на малюнку 2.

Цяпер трэба выбраць пятлю, выцягваючы ланцуг у накірунку, паказаным стрэлкай, у той час як памочнік круціць каленчаты вал. Тут нельга дапусціць пераскоквання ланцуга праз зубцы зорачак, каб потым не займацца ўстаноўкай фаз газаразмеркавання і моманту запальвання.

Калі новы ланцуг выйдзе наверх, аслабаніце яго ад старога і злучыце на зорачцы (зняўшы гумавае кольца) раней вынятым пальцам. Раскляпайце выступаючую частку пальца ўдарам малатка, падставіўшы пад другі яго канец апору.

Цяпер застанецца нацягнуць ланцуг, як паказана ў інструкцыі, і праверыць супадзенне метак на зорачцы і шківе, а таксама становішча бегунка. Калі ўсе раней знятыя дэталі пастаўлены на месца — рухавік зноў гатовы да работы.

*ЭКСЛІБРЫС «ЗВЯЗДЫ»*

# CREDO ЯГО — СЛУЖЭННЕ РОДНАМУ КРАЮ

**Янушкевіч Я. Неадменны сакратар Адраджэння: Вацлаў Ластоўскі. — Мн.: Навука і тэхніка, 1995. — 68 с., [9] арк. іл., партрэт. — [Нашы славутыя землякі].**

Выдавецтва «Навука і тэхніка» на працягу некалькіх гадоў рабіла выключна вялікую работу па прадстаўленню чытачу постацей беларускай гісторыі. Няма ўжо сёння выдавецтва. На паліцах кнігарань — апошнія кнігі серыі «Нашы славутыя землякі». Сярод іх — і нарыс Язэпа Янушкевіча «Неадменны сакратар Адраджэння», прысвечаны жыццю, навуковай і літаратурнай дзейнасці Вацлава Ластоўскага. Нагадаем некаторыя характарыстыкі-вымярэнні гэтай постаці: сакратар газеты «Наша ніва», прэм'ер-міністр БНР, акадэмік, сакратар Беларускай акадэміі навук. Як этапы-пазнакі плёну яго жыцця, яго шматграннай дзейнасці — «Падручны расійска-крыўскі [беларускі] слоўнік», «Кароткая гісторыя Беларусі» і, вядома ж, «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі». Ужо адны толькі гэтыя кнігі — узнёслы падручнік любові да Айчыны, пазнання і адкрыцця Беларусі.

Як і многія дастойныя сыны Радзімы, Вацлаў Ластоўскі быў знішчаны на сталінска-гулагаўскім канвееры. Але багацце зробленага, патрэба зробленага пакінула сярод нас, пакінула з намі неадменнага сакратара Адраджэння.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

Сардэчна віншуем з юбілеем
**Барэля Аркадзя Сямёнавіча**
з пасёлка Юбілейны Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці

Ад шчырага сэрца
Віншуем са святам
Хай, тата, Ваш шлях
Будзе шчасцем багаты.

Хай гора і смутак
Мінаюць наш дом
І поўніцца радасцю ён
І цяплом.

Дзеці

*Малюнкі Марыны ГАРЭЛАВАЙ*

## Віншаванні

***Дарагія мамачка і татачка!***
*Віншуем Вас з 20-годдзем Вашага сумеснага жыцця.*
*Жадаем моцнага здароўя, шчасця і дажыць да залатога вяселля. Мы Вас любім!*

***Вашы сыны Леанід і Віталь Сільчанкі.***

*Сардэчна віншуем* ***Ядвігу Іосіфаўну Бутвілоўскую*** *з днём нараджэння. Здароўя, плённай працы.*

***Абдымаем — Генадзь, Валянціна. г. Беразіно.***

***Шаноўны сябра Ігар!***
*Шчыра віншую цябе з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, дабрабыту і шчасця.*
*«Пусть сбудутся мечты твои, а сердце грусти пусть не знает, и пусть звезда большой любви навеки путь твой озаряет».*

***г. Гомель. Леанід.***

*36,6°*

## ІНСУЛІН І РАК

Даследаванні, якія праводзіліся англійскімі вучонымі на працягу пяці гадоў, з вялікай відавочнасцю пацвердзілі, што інсулін адыгрывае важную ролю у размнажэнні ракавых клетак. Вучоныя пацвердзілі сведчанне таго, што ён звязаны з пачаткам ператварэння здаровых клетак у злаякасныя. Апошнія даследаванні выявілі таксама, што ў жанчын, якія захварэлі на рак грудзей, назіралася павелічэнне інсуліну ў крыві.

Хворыя, што пакутуюць ад акрамегаліі (ненармальнае павелічэнне ў памерах рук, ног і твару), таксама схільныя да развіцця паліпаў на абводачнай кішцы, якія часта прыводзяць да рака.

Патэнцыяльнай крыніцай гэтых фактаў з'яўляецца малако, асабліва ад кароў, у рацыён якіх дабаўляюць гармон, што садзейнічае павелічэнню вагі. Вучоныя прызнаюць таксама, што малочныя прадукты могуць быць звязаны і з ракам стрававальнага тракта.

**Мікалай КАЛІНІН.**
**«АиФ» «Здоровье».**

## ТРАВЫ СУПРАЦЬ АСТМЫ

**Крапіва пякучая**. Сухі корань засыпаюць у бутэльку на 1/5 аб'ёму, да рыльца заліваюць гарэлкай, настойваюць у цёмным месцы два тыдні. Прымаюць па 20—25 кропель за 15—20 хвілін да яды на працягу трох тыдняў.

**Багун.** Сталовую лыжку травы заліваюць 0,5 л кіпеню, настойваюць закрытай 6—8 гадзін (ноч). Прымаюць па дзве сталовыя лыжкі пасля яды. Добра ўдыхаць пах травы па 2—3 хвіліны некалькі разоў на дзень або трымаць маленькі пучок у спальні. Карысна прымяняць багун у зборы. Бяруць яго 25 г і 15 г травы крапівы двухдомнай, заліваюць 1 л кіпеню, настойваюць у шчыльна закрытай пасудзіне 2 гадзіны. Прымаюць па 2-3 сталовыя лыжкі праз кожныя 3 гадзіны.

**Ісоп.** Сталовую лыжку сухой травы заліваюць 0,5 л кіпеню, вытрымліваюць закрытай у вадзяной лазні 10—15 хвілін, настойваюць 2-3 гадзіны. Прымаюць увесь атрыманы аб'ём вадкасці за 5—7 прыёмаў на працягу дня.

З лісця можна прыгатаваць настойку (як з лісця крапівы пякучай).

**Любіста.** Бяруць 30 г кораня, заліваюць 1 л кіпеню, томяць у духоўцы ўсю ноч, а за дзень выпіваюць усю вадкасць малымі порцыямі за 20 хвілін да яды.

**Каноплі.** Здрабняюць 5—10 г насення, гатуюць на малым агні ў 200 мл вады, прымаюць увесь аб'ём вадкасці на працягу дня.

**Жыта.** Бяруць 5—10 каласкоў у час цвіцення (свежых ці высушаных), заліваюць 1 л кіпеню, настойваюць 2 гадзіны. Прымаюць вадкасць за дзень.

Акрамя гэтых раслін карысна ўжываць адвары, настоі, настойкі наступных раслін: палыну звычайнага (чарнобылю), дзіванны, буквіцы, лопуху, падбелу, алтэя, сушаніцы, а таксама ўжываць у ежу (ці піць сок) агародныя расліны: рэпу, рэдзьку, капусту, моркву, кукурузу, крэс-салату, агуркі, кроп.

Дапамагае лячэнню ўжыванне ягад: дурніц, ажыны, каліны, іргі, рабіны чырвонай, парэчак чорных, чарніц. Часам п'юць адвары з няспелых верхавінак аўса і малочнай спеласці каласоў пшаніцы.

У спальным пакоі добра трымаць у вадзе (як букет) галінкі сасны ці елкі.

З усіх пералічаных раслін хворы павінен падабраць для сябе найбольш эфектыўныя і прымяняць іх на працягу двух-трох тыдняў. Потым мяняць на іншыя (каб не было прывыкання) добра вядомыя сродкі. Так трэба рабіць да поўнага выздараўлення.

**Лідзія НАВІЧЫХІНА, травазнаўца-лекар.**

## ТЭЛЕБАЧЭННЕ, 13 чэрвеня

### Беларускае тэлебачанне

**10.25** «Віні-Пух», «Віні-Пух і дзень турбот». Мультфільмы.
**11.05** «Трое ў вежы, калі не лічыць ката». Дак. фільм.
**11.35** «Султан Бейбарс». Маст. фільм з субцітрамі. 1-я і 2-я серыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей.
**15.40** «Дзяўчынка і леў», «Слон і пеначка». Мультфільмы.
**16.05** Фільмы-прызёры II Міжнароднага тэлефоруму «Экамір-96». «Бебжа ўчора і сёння» (Польшча).
**17.05** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.35** Скарбы. Перадача з Гродна.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Апошні прытулак жыцця». Тэленарыс.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Кобра».
**20.05** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». «Оскар». Тэлегульня.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.05** «Каралева Марго». Маст. фільм. 4-я серыя.
**23.05** «Крок». Праграма для моладзі.
**23.35** Тэлевізійны Дом кіно. Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Любоў Румянцава.
**0.15** Навіны.

### ГРТ

**10.25** «Фанцік». Мультфільм.
**10.40** Смак.
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Кантакт — дзелавое супрацоўніцтва краін Садружнасці».
**14.20** «Рыцар Смелае Сэрца».
**14.45** Лега-го!
**15.10** Цін-Тонік.
**15.35** «Элен і хлопцы».
**16.05** Рок-урок.
**16.30** «Сем дзён спорту».
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.05** Гадзіна пік.
**18.30** Лато-Мільён.
**18.55** «Мужчынская размова». Аўтарская праграма Эльдара Разанава.
**19.45** «Добрай ночы, малышы!»
**20.00** Час.
**20.40** Праграма перадач.
**20.45** Прэзідэнцкія выбары-96.
**21.10** Улада і слава: Мікіта Хрушчоў. Фільм «Шэрыя ваўкі».
**23.25** Футбол. Зборная Балгарыі—зборная Румыніі. 2-і тайм.

### Канал «Расія»

**14.50, 19.35, 21.10, 23.25** Выбары-96.
**10.00, 16.00, 19.00, 23.35** Весткі.
**13.50** «Леў і дзевяць гіен». Мультфільм.
**14.00** Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
**15.00, 16.20** Баскетбол. Фінал чэмпіянату НБА.
**15.50** Каляндар.
**16.50** «Дзяўчынка з заўтра». Серыял для падлеткаў.
**17.15** Залатая візітка.
**17.25** Прасцей простага.
**17.55** Нічога, акрамя...
**18.10** Галасуй, ці прайграеш.
**18.25, 19.50** Урачыстая цырымонія закрыцця VII Міжнароднага адкрытага кінафестывалю «Кінатаўр».
**20.20** «Санта-Барбара».
**21.25** Футбол. Зборная Швейцарыі—зборная Галандыі. У перапынку — Весткі, надвор'е на заўтра.
**23.50** Музыка ўсіх пакаленняў. Ролінг Стоўнз.
**0.05--0.50** Адамаў яблык.

### НТБ

**17.00** «Сямейка Флінстоўн». 47-я серыя, заключная.
**17.30** Жаночыя гісторыі. «Дэззл». 3-я серыя.
**18.00, 21.00, 23.00** «Сёння».
**18.35** Герой дня.
**19.00** Наша новае кіно. Прэм'ера маст. фільма Савы Куліша «Жалезная заслона». Фільмы 1-ы і 2-і.
**21.35** «Доктар Куін, жанчына-ўрач». 73-я серыя.
**22.30** Часінка.
**23.20** Кіно не для ўсіх. Вахтанг Мікеладзе. «Шэрыя кветкі» («Турма»).

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 14.55, 15.55, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55** Інфарм ТБ.
**12.05—12.55** «Першае каханне». Серыял.
**14.05** «Спякота ў Акапулька». Серыял.
**15.05** «Ленінградскія салавейкі». Тэлефільм.
**15.50** Стыль жыцця.
**16.05** «Прыгоды двух медзведзянятаў». 3-я серыя.
**16.30** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў.
**16.55** Спартыўны агляд.
**17.05** Толькі без панікі.
**17.30, 18.00** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.35** Вялікі фестываль.
**19.05** «Першае каханне». Серыял.
**20.05** Я — геній.
**20.40** Тэлеслужба бяспекі.
**21.00** Спорт.
**21.05** «Спякота ў Акапулька». Серыял.
**22.05** «На ноч гледзячы». Забаўляльная праграма.
**22.20** Эліа Казан і яго фільм «Твар у натоўпе» (ЗША).
**0.35--1.36** Галасуй, ці прайграеш.



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2936.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12